№ 39 (876) 22 кастрычніка 2014 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Альшанскі цуд: вёска, якая абвергла Карла Маркса

Старонкі 4—6

Насельніцтва тут расце, а ВУП на душу — як у Фінляндыі. Вёска Альшаны ў Столінскім раёне — самая вялікая ў Беларусі. У ёй жыве каля 8000 чалавек. «Пратэстанцкая сталіца» — кажуць пра яе.

**Палеміка**

## Мова ці вата

Як закрыліся папулярныя курсы беларускай мовы.

**Старонка 9.**



**Палітыка**

## Лукашэнка прызначыў галоўнага целаахоўніка

Хто такі Віктар Шынкевіч.

**Старонка 2.**



**Здарэнні**

## Банда «пажарнікаў» зноў на авансцэне

Члены злачыннай групоўкі папаліся на новых злачынствах.

**Старонка 7.**



**Гісторыя**

## «Краты» доўга не жывуць

Невядомыя старонкі антысавецкага супраціву.

**Старонка 14 .**



## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Лукашэнка прызначыў галоўнага целаахоўніка краіны

Кіраўніком службы аховы кіраўніка дзяржавы прызначаны Віктар Шынкевіч.

Ён змяніў на гэтай пасадзе Андрэя Уцюрына, якога ў пачатку верасня адправілі на павышэнне намеснікам дзяржсакратара Рады бяспекі.

Віктару Шынкевічу 54 гады. Ён нарадзіўся ў вёсцы Кромавічы Докшыцкага раёна (адтуль паходзіць таксама былы кіраўнік «Мінгарсвятла» Валерый Шкіранда). Шынкевіч скончыў Тэхналагічны інстытут (1982), Вышэйшыя курсы КДБ (1987), Акадэмію кіравання пры прэзідэнце (2002).

Ад 1986 да 1995 служыў у КДБ. Ад 1995 — у службе аховы Лукашэнкі. Апошнія 7 гадоў з'яўляўся намеснікам старшыні Службы. Палкоўнік. Мае ордэн «За службу Радзіме ІІІ ступені».

«Увогуле, ён не кар'ерыст, — кажа добры знаёмы Шынкевіча. — Пасля Бародзіча ў асноўным прызначаюць нават не сілавікоў, а хутчэй чыноўнікаў па складзе розуму і характару. Ён такі штабны афіцэр, які займаецца планаваннем і забеспячэннем аперацыі. І ягоная пасада зусім не значыць, што ён валодае навыкамі стральбы ці фізічных адзінаборстваў».

«Напэўна, ведаеце, што хтосьці разглядаў гэта як добрае, удалае, цёплае месца, не разумеючы таго, куды ён ідзе, некаторыя проста хочуць паспрабаваць сябе на гэтай пасадзе. Перада мной былі два моманты: прызначаць чалавека з боку, каб страсянуць тым самым Службу бяспекі, ці ж пакінуць чалавека, які доўгі час праслужыў у Службе бяспекі, добра яе ведае, — адзначыў Лукашэнка. — Як разумееце, часу ў нас няма, каб разгойдвацца, у нас хапае мерапрыемстваў, дзе трэба і забяспечваць бяспеку прэзідэнта, і вырашаць іншыя пытанні, якія ляжаць на Службе бяспекі. Пры гэтым у мяне ёсць маса пытанняў да яе».



**Гэта дзясяты кіраўнік** Службы аховы прэзідэнта ад 1994 года. Раней яе ўзначальвалі:

Вячаслаў Каралёў (1994 — 1995)

Юрый Бародзіч (1995 — 1998)

Уладзімір Навумаў (1999 — 2000)

Леанід Ерын (верасень—лістапад 2000)

Генадзь Нявыглас (снежань 2000 — верасень 2001)

Уладзімір Клімаў (верасень—кастрычнік 2001)

Яўген Дзярніцкі (2001 — 2003)

Юрый Жадобін (2003 — 2007)

Андрэй Уцюрын (2007 — 2014)

«Аб бодзігардах знята шмат фільмаў, серыялаў, напісана шмат кніг. Натуральна, многія юнакі марацьстаць падобнымі да кінагероя Кевіна Костнера і імкнуцца стаць супермэнамі, бачаць сябе бодзігардамі VIP-персон, — расказваў Віктар Шынкевіч. — Між тым супрацоўнікі СБП — звычайныя хлопцы. Праўда, яны маюць цудоўную падрыхтоўку. Напрыклад, валодаюць аператыўнай псіхалогіяй, умеюць канцэнтравацца на галоўным, не прапускаючы дробязі, нестандартна думаць і прымаць правільныя рашэнні ў экстрэмальных сітуацыях. Маюць натрэніраваную, завостраную ўвагу, даведзеныя да аўтаматызму навыкі дзеяння ў пры ўзнікненні пагрозы».

«Любоў да Радзімы і адданасць прэзідэнту», — такія галоўныя патрабаванні да працы ў Службе аховы называў Андрэй Уцюрын.

Служба бяспекі прэзідэнта — адна з самых закрытых спецслужбаў краіны. Ніхто не ведае дакладную колькасць людзей, якія працуюць у гэтай структуры, але вядома, што лік ідзе на сотні. Кіраўнік службы аховы — адна з ключавых пасад у сённяшняй Беларусі.

**Зміцер Панкавец**

# Беларусы лічаць далучэнне Крыма справядлівым. Але асуджаюць сепаратыстаў Данбаса

Аналітычная майстэрня Андрэя Вардамацкага правяла сацыялагічныя даследаванні пра ўплыў украінскіх падзей на беларускае грамадства.

### Стаўленне да Крыма і Данбаса

Большасць беларусаў — 67,8% — у верасні лічыла, што далучэнне Крыма да Расіі з'яўляецца маральным і легітымным. Падобныя лічбы былі ў сакавіку. Для параўнання, у Расіі ўхвальнае стаўленне назіраецца ў 91% апытаных.

Стаўленне да прарасійскіх выступаў ва ўсходніх рэгіёнах Украіны — адзінае, што выклікала хутчэй адмоўную ацэнку беларусаў і не супала з прарасейскай інтэрпрэтацыяй. Падтрымліваюць цалкам або часткова «прарасійскія акцыі пратэсту ва ўсходніх і паўднёвых абласцях Украіны» 28,4% апытаных беларускіх рэспандэнтаў. Тады як не падтрымліваюць цалкам альбо часткова 39,9%.

### Крым іх

Цяпер ужо добра вядомая гатоўнасць расейцаў ахвяраваць шмат чым дзеля таго, што цяпер называецца тэрмінам «крымнаш». У Расіі ёсць рашучасць плаціць вялікую санкцыйную цану за пашырэнне. Ці гатовыя беларусы ахвяраваць чым-небудзь, каб падтрымаць Расію? Як паказваюць дадзеныя, такой гатоўнасці няма. 63,6% рэспандэнтаў «не гатовыя» і «хутчэй не гатовыя» супраць 24,7%, якія «цалкам гатовыя» і «хутчэй гатовыя».

### За Расію, а не за Еўрасаюз

Прыпыненне росту прарасійскіх арыентацый, якая зафіксавана ў чэрвеньскім апытанні, захавалася.

Працэнт арыентаваных на Расею застаўся практычна нязменным, нават крыху паменшаў (у верасні — 64,8%), працэнт праеўрапейцаў таксама паменшаў (у верасні — 14,8%). Меркаванага падзення прарасейскіх настрояў і росту праеўрапейскіх не адбылося. Многія апытаныя «звалі́ліся» ў катэгорыю нявызначаных (20,4%).

### Стаўленне да санкцый

На пытанне пра стаўленне да санкцый супраць Расіі, абвешчаных Еўрасаюзам і ЗША, 73,3% апытаных (26,4%+46,9%) адказалі, што «хутчэй не падтрымліваюць» і «зусім не падтрымліваюць», тады як «цалкам падтрымліваюць» і «хутчэй падтрымліваюць» толькі 9,5% апытаных (2,1%+7,4%).

Стаўленне да санкцый супраць Лукашэнкі крыху іншае. Па выніках даследавання 2011 года, 49,5% рэспандэнтаў (29,2%+20,3%) іх «хутчэй не падтрымліваюць» і «зусім не падтрымліваюць», а «цалкам падтрымліваюць» і «хутчэй падтрымліваюць» — 17,3% (5,5%+11,8%).

Што менавіта тут з'яўляецца тлумачальным прынцыпам? Або роля расійскіх медыя, якія робяць санкцыі супраць Расіі больш непрымальнымі для беларусаў, чым санкцыі супраць уласнай краіны, або нелюбоў да Лукашэнкі такая вялікая?

### Высновы

1) Погляд на падзеі праз прызму таго, што адбываецца ва Украіне, — асноўны працэс, які адбываецца ў грамадскай думцы Беларусі. Украінскія падзеі вызначаюць канфігурацыю масавай свядомасці практычна па ўсіх пытаннях, а не толькі па ўкраінскім. Падзеі ва Украіне фармуюць, вызначаючь грамадскае меркаванне і па рэйтынгу Лукашэнкі, і па эканамічным самаадчуванні, і па геапалітычных арыентацыях.

2) Расійскі погляд на украінскія падзеі пераважае ў беларускай грамадскай думцы.

3) Парадаксальная формула — дынаміка стаўлення беларусаў да ўкраінскіх падзеяў па асноўных параметрах заключаецца ў яе адсутнасці. Дынамікі, зменаў ацэнак няма.

4) «Беларускі зазор» — у гэтым сутнасць адрознення беларускай грамадскай думкі ад расійскай. Адрозненне не якаснае, хаваецца ў колькаснай велічыні адабрэння. Гэта адабрэнне большасці, але не пераважнай або абсалютнай большасці, як у Расіі.

5) Геапалітычны інфантылізм як рыса масавай свядомасці беларусаў зафіксаваны пры вымярэннях стаўлення беларусаў да магчымасці паводзін Расіі ў дачыненні да Беларусі па мадэлі яе паводзін да Украіны. Беларусы лічаць украінскі варыянт немагчымым.

**Ягор Марціновіч**

## Сцісла

**Статкевіч згодны стаць адзіным кандыдатам**

Мікалай Статкевіч адгукнуўся на прапанову Уладзіміра Някляева вылучыць палітвязня адзіным кандыдатам ад апазіцыі на выбарах у 2015. Пра гэта паведаміла жонка Статкевіча Марына Адамовіч.

**Канапляніка выпусцілі ў Беларусь**

Старшыня Кіравання Следчага камітэта па Мінску, якога затрымалі разам з жонкай пры выездзе з Літвы за патроны ў машыне, ужо дома. Акруговая пракуратура Вільні спыніла дасудовае расследаванне ў адносінах да Канапляніка.

**П'яны за рулём снегаўборачнай машыны сутыкнуўся з самалётам**

У ноч на 21 кастрычніка пры ўзлёце ў маскоўскім аэрапорце Унукава-3 чатырохмесны самалёт Falcon (які вылятаў у Парыж) зачапіўся за аўтамабіль спецтэхнікі, загарэўся і ўпаў на ўзлётна-пасадачную паласу. На борце знаходзіліся адзін пасажыр, прэзідэнт французскай нафтавай кампаніі Total Крыстоф дэ Маржэры, і тры члены экіпажа. Усе загінулі. Кіроўца машыны, у якую ўрэзаўся самалёт, быў п'яны.

**Парашэнка падпісаў закон, які дазваляе судзіць Януковіча**

Гаворка ідзе пра змены ў крымінальнае заканадаўства «датычна няўхільнасці пакарання за асобныя злачынствы супраць асноў нацыянальнай бяспекі, грамадскай бяспекі і карупцыйныя злачынствы». Гэты дакумент дазваляе праводзіць завочныя працэсы над падазраванымі, а таксама канфіскаваць іх маёмасць.

**Застрэліў жонку ў першую шлюбную ноч за тое, што яна закурыла**

Жыхар Буда-Кашалёва асуджаны на 14 гадоў пазбаўлення волі за забойства жонкі. Трагедыя адбылася ў першую шлюбную ноч. Муж пабачыў жонку з цыгарэтай, хоць да гэтага яны дамовіліся, што яна кіне паліць. Мужчына схапіўся за стрэльбу.

**СМ**

## Самае чытанае на nn.by за 15—21 кастрычніка

1 Кацярына Кібальчыч: «Моя страна сошла с ума»

2 Лукашэнка нагадаў Расіі, што Смаленшчына і Пскоўшчына «належалі Беларусі»

3 За купюру 5000 беларускіх рублёў на аўкцыёне даюць 1300 даляраў

4 Дзіянава разыгралі: прапанавалі працу на Расію, а ён і пагадзіўся

5 Нацыяналісты сарвалі футбол: бойка футбалістаў на матчы Сербія—Албанія за сцяг

6 Лукашэнка: Я больш украінец, чым беларус ВЯСЁЛЫЯ КАРЦІНКІ

7 Лукашэнка: Калі б не Расія, то дні «ЛНР» і «ДНР» ужо б скончыліся АНЛАЙН

8 Мова ці вата. Кацярына Кібальчыч негатыўна аб заўзятарах і Украіне

9 Лідар баевікоў ДНР Губараў трапіў у засаду, ён у цяжкім стане

10 Пункт відзяня і пункт седзяня: страсці вакол Кацярыны Кібальчыч

# Што гаварыў Лукашэнка: Ад беларускага Смаленска — да С-300

Столькі выпадаў на адрас Расіі кіраўнік дзяржавы не дазваляў сабе ніколі.

Прэс-туры расійскіх рэгіянальных журналістаў у Беларусь праходзяць у наступным рэжыме: аграгарадкі — старажытная спадчына Беларусі — паспяховыя прадпрыемствы — прэс-канферэнцыя Лукашэнкі — захопленыя матэрыялы ў «Сургуцкай трыбуне» ці «Цюменскай праўдзе». Механізм адпрацаваны з гадамі.

Але вось сёлета адбыўся пэўны збой. Замест таго, каб ліць у вушы гасцей мёд аб братэрстве народаў, Лукашэнка выказаў усе даўнія крыўды на Расію. А што яшчэ больш страшнае — не падтрымаў пазіцыю Расіі па Украіне ў цэлым і па Крыме — у прыватнасці.

### Пскоў, Смаленск, Бранск — беларускія

Фраза, за якую схапіліся расійскія шавіністычныя сайты. Партал «Спутнік і пагром» напісаў: «Ён супраць Наваросіі. Ён супраць Крыма. Ён за беларускія Калінінград і Смаленск. Ён — галоўны сябра рускага народа». За гэтыя самыя словы пра Пскоў схапіўся і іншы сайт — «Рэгнум».

«Мяне палохаюць: сёння — Украіна, заўтра — Беларусь, а паслязаўтра — Казахстан (ці наадварот)... Глупства поўнае! У нас нават не разглядаюцца на палітычным узроўні падобныя варыянты. Калі пра гэта кажам у вузкім коле, прэзідэнты і іншыя, я кажу: «Уладзімір Уладзіміравіч, вы не хвалюйцеся, у нас няма напружання ў гэтай частцы, гэта вы, кажу, павінны напружвацца, таму што частка пскоўскіх, смаленскіх і бранскіх земляў калісьці належала Беларусі, таму прыйдзецца падзяліцца...»

Хай і паўжартам, але Лукашэнка прызнаў пераемнасць Вялікага Княства Літоўскага, у склад якога і ўваходзілі смаленскія і бранскія землі. Магчыма, сказаў бы пра такія прэтэнзіі, хай нават не ўсур'ёз, іншы кіраўнік, мог бы атрымаць дыпламатычны скандал, а Лукашэнку спускаюць з рук.

### Калі б не Расія, то дні «ДНР» і «ЛНР» былі б злічаныя

Лукашэнка адкрыта прызнаў, што Расія прысутнічае на паўднёвым усходзе Украіны, толькі праз яе ўмяшальніцтва працягваецца вайна. «Што тычыцца вось гэтай бойні на паўднёвым усходзе Украіны. Давайце не будзем цямніць адзін перад адным, бо калі б не Расея, то дні «ДНР» і «ЛНР» былі б злічаныя даўно. Расея проста вымушана — ці не вымушана, я лічу, што вымушана, — абараняць і падтрымліваць гэтыя тэрыторыі». Не ўсе на Захадзе гавораць пра гэта як факт.



### Дайце мне С-300

«Я кажу: «Дайце мне С-300, яна ў вас пад плотам ў Маскоўскай акрузе ляжыць, не выкарыстоўваецца, дайце мне яе». — «Ну, гэта вось каштуе грошай». Я кажу: «Вы што, звар'яцелі? Я буду вас абараняць, а вы мне кажаце, што ідзі аўтамат купі, каб расейцаў абараняць?! Гэта ж нічога не каштуе, пад плотам ляжыць». І вы ведаеце, мы вымушаныя былі іх купіць і за свае грошы аднавіць у Расіі. Мы на гэта пайшлі».

Зенітныя ўстаноўкі С-300 на сёння з'яўляюцца адным з найбольш эфектыўных установак ад удараў паветрана-касмічнага нападу праціўніка. Прабіць абарону С-300 — складаная, амаль невырашальная справа. Імкнучыся атрымаць С-300, Беларусь спрабуе ўмацаваць сваю бяспеку.

Аднак лепшая абароненасць будзе толькі тады, калі Беларусь будзе вырабляць С-300 сама.

### Больш украінец, чым беларус

«У Беларусі перамяшана ўсё: руская, польская кроў, украінская, габрэйская, нават татараў у нас 30 тысяч жыве. Ні адзін не крыўдзіцца, што ў нас дрэнна. Таму што беларус — гэта вось такая грымучая сумесь, кангламерат гэта. Таму і разумныя людзі — увабралі ўсё гэта. Гэта я не пра сябе, я пра Беларусь, я больш украінец, напэўна».

Такія заявы Лукашэнкі нарадзілі мноства жартаў і фотажабаў у інтэрнэце: Лукашэнку малявалі ў выглядзе казака.

### Крым не наш?

«Цяпер кажуць, а вось ведаеце, Хрушч [Хрушчоў — «НН»] сякі-такі аддаў Украіне Крым. Гэта не так! Нам была дадзеная гарантыя. Гэта недапушчальна, калі нейкая дзяржава парушае тэрытарыяльную цэласнасць. Гэта няправільна».

Калі паўстала пытанне, ці прызнае Лукашэнка юрыдычна далучэнне Крыма да Расіі, то ён адказаў: «Не трэба мяне далбаць, як па Абхазіі». Фактычна, кіраўнік краіны пацвердзіў, што пакуль не збіраецца прызнаваць далучэнне Крыма да Расіі.

### У Заходняй Украіне не бандэраўцы і не нацысты

«Я вельмі добра ведаю ўкраінскі народ, асабліва на захадзе. І не веру, што ва Украіне «западэнцы» — гэта нацысты, фашысты і іншыя, а на ўсходзе — гэта толькі нашы. Ды нармальныя там людзі». Лукашэнка заклікаў і расейцаў, і беларусаў вучыцца працаваць у заходніх украінцаў.

### Мядзведзеў — адэкватна. А Пуцін?

«Мядзведзеў абсалютна рэальна ацэньваў сітуацыю, якая адбывалася ва Украіне. У нас абсалютна не было ніякіх разыходжанняў». Дарэчы, Лукашэнка казаў «ва Украіне», а не «на Украіне». Пра пазіцыю Пуціна ён змаўчаў.

### Прыстойны чалавек Цімафці

Цікавая адметнасць: калі Лукашэнка гаворыць пра Пятра Парашэнку, Аляксандра Турчынава ці Мікалая Цімафці, ён называе іх «прыстойнымі, чэснымі» людзьмі і палітыкамі. Расійскае кіраўніцтва такімі кампліментамі ён не абдорвае.

### «Саня застанецца з намі»

«Сёння, калі б гэтыя выбары былі заўтра, я браў бы ўдзел, — сказаў ён. — Што будзе праз год, шчыра вам кажу, спадзяюся, што не павернецца свет і Беларусь не апынецца недзе там на дне. Калі ўсё будзе нармальна і я буду здаровым, у мяне няма падстаў адмаўляцца ад передвыбарчай кампаніі». Зрэшты, Лукашэнка адказаў, што ва ўпор не бачыць чалавека, які мог бы яго змяніць. «Ужо ёсць факт стомленасці ад цябе людзей. Не прагаласуюць — ну і добра, гэта магчымасць пажыць». Апошнія словы хутчэй сказаныя для праформы, пакуль што нікуды сыходзіць Лукашэнка яўна не збіраецца.

**Зміцер Панкавец**

# Памёр Міхаіл Марыніч

Беламу міністру, а пасля палітвязню было 74 гады.

На развітанне з палітыкам, якога хавалі на Усходніх могілках, сярод іншых, прыйшлі былы мэр Мінска і прэм'ер-міністр Уладзімір Ярмошын і экс-кіраўнік справаў прэзідэнта Іван Ціцянкоў. У 2001-м наменклатура так і не адгукнулася на ініцыятыву Марыніча. Ён пайшоў ва-банк: паспрабаваў разварушыць чыноўнікаў і кінуць на выбарах выклік Лукашэнку. Але марна. У ЦВК штаб Марыніча аднёс толькі 96 тысяч подпісаў — недастаткова.

Палітыку жорстка адпомсцілі. У 2004-м яго арыштавалі і прысудзілі да пяці гадоў пазбаўлення волі за нібыта крадзеж аргтэхнікі ў пасольстве ЗША, якое не мела прэтэнзій да Марыніча. Камітэт ААН па правах чалавека прызнаў, што крымінальная справа была палітычнай расправай.

За кратамі палітыку не давалі лекаў, што прывяло да інсульта.



Быў паралізаваны левы бок, Марыніч не мог размаўляць. На свабоду ён выйшаў па амністыі ў красавіку 2006-га.

Міхаіл Марыніч зрабіў сабе імя ў будаўніцтве, а ў канцы 1970-х перайшоў на працу ў органы ўлады. У 1990—1991 ён быў старшынёй Мінскага гарвыканкама. Пасля прыходу да ўлады Лукашэнкі Марыніч узначаліў нядаўна створанае Міністэрства знешніх эканамічных сувязяў, а пасля быў амбасадарам у Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі.

Марыніч запомніўся беларусам незвычайнай гісторыяй кахання. Другі шлюб 65-гадовы палітык узяў у калоніі. Абранніцы Таццяне быў 31 год, некалькі гадоў перад зняволеннем Міхаіла яны жылі разам. Пара пазнаёмілася ў Міністэрстве знешніх эканамічных сувязяў, куды дзяўчына прыйшла працаваць у 1995-м.

Неўзабаве пасля роспісу ў сям'і нарадзіўся сын Міхаіл. Апроч яго, ад першага шлюбу ў Марыніча яшчэ двое сыноў, Павел і Ігар, якія працягваюць многія справы бацькі.

**ЯМ**

### Спачуванні праз nn.by

Светлая памяць вельмі прыстойнаму чалавеку. На жаль, ён зрабіў менш, чым мог…

**Ігар Лялькоў**

Спачуванні родным, сябрам, аднадумцам. Гэта быў вельмі прыстойны, разумны і сумленны чалавек. Міхаіл Марыніч многа зрабіў для Беларусі, зрабіў бы нашмат больш, каб не такія цяжкія выпрабаванні. Царства яму нябеснае.

**Валянцін Голубеў**

Спачуванні родным і блізкім сп.Міхаіла. Я не быў з ім асабіста знаёмы, але ведаў, што гэта інтэлігентны і добры чалавек! Шкада, калі нас пакідаюць такія асобы.

**Сяржук Бахун**

# Альшанскі цуд:



Яшчэ восень, а альшанцы ўжо рамантуюць парнікі.

Насельніцтва тут расце, а ВУП на душу — як у Фінляндыі.

Вёска Альшаны ў Столінскім раёне — самая вялікая ў Беларусі. У ёй жыве каля 8000 чалавек. «Агурковая сталіца» — кажуць пра яе.

Вёска вядома яшчэ і вялікай пратэстанцкай грамадой. Палова Альшан — пяцідзясятнікі, ці, правільней кажучы, хрысціяне веры евангельскай. Яны адрозніваюцца і ад каталікоў, і ад праваслаўных. Не прызнаюць іконаў, не пакланяюцца мошчам, але строга выконваюць усе прыказанні Бібліі. Яны ствараюць пры цэрквах дружныя грамады. І прынцыпова не п'юць.

### «Беларусь за дзень завалім»

«Гадоў 35 таму з'явіліся першыя цяпліцы ў Альшанах. Цяпер гэта асноўная крыніца прыбытку, — расказвае 40-гадовы Юрый Логвінка, які рыхтуецца стаць пратэстанцкім дыяканам. Яго да такой працы далучылі яшчэ падлеткам у савецкі час. — Мяне дзед браў, і мы ездзілі ў Латвію: збіраеш тыдзень 8—10 мяхоў агуркоў па 80 кг, іх яшчэ называлі «кітайцамі» (невысокія і шырокія). Прадавалі на рынках. А цяпер оптам усё забіраюць».

Галоўныя скупшчыкі — з Расіі. «У асноўным расіяне скупляюць. А Беларусь мы за адзін дзень завалім. Вы не ўяўляеце аб'ёмаў. У разгар сезона ў сярэднім — каля 1000 тон у дзень! Гэта 25 фур і дзясяткі мікрааўтобусаў».




На выездзе з Альшанаў ёсць рынак, які адкрыў мясцовы фермер. Прыязджаюць туды не толькі на фурах, але і меншым транспартам: загрузілі 3—5 тон — і паехалі.



Пратэстанцкая царква ў Альшанах — нібы сталічны тэатр.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Сезон агуркоў — вясна і лета. Пасля да маразоў — капуста. «А зімой жа дровы трэба прывезці — цяпліцы ацяпляюцца буржуйкамі». Газам тапіць нявыгадна.

Працаваць у Альшаны прыязджаюць нават з суседніх раёнаў. У вёсцы з'явілася свая «біржа працы»: каля крамы збіраюцца людзі. Праўда, добрыя работнікі на вагу золата. «Чужыя выпіваюць, — тлумачыць Юрый. — Асабліва прыезджыя: ім бы да вечара зарабіць, каб выпіць».

Ёсць у Альшанах і СВК, колішні калгас, — спецыялізуецца на малацэ, ялавічыне, зерні, цукровых бураках.

### Абяцанкі-цацанкі

На пад'ездзе да Альшанаў стаяць яблыневыя сады. Гэта гаспадаркі фермераў. Адзін з іх — Якаў Грыб. Ён таксама прыхаджанін пратэстанцкай царквы.

Фермерствам ён займаецца з 1999. Тады яму толькі-толькі споўнілася 30 гадоў. Да таго



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Якаў Грыб — адзін з першых фермераў у Альшанах.

зарабляў грузавымі перавозкамі. Была і свая цяпліца з агуркамі. А як выйшаў закон аб зямлі, узяў 12 га. Потым яшчэ. На сёння мае 70 га.

Грыб атрымаў зямлю пад Давыд-Гарадком — за 10 км ад Альшан. Зямля была непрыдатная. Грыб



Вяселле адбываецца ў спецыяльна ўбраным парніку. У пратэстантаў алкаголю не ўжываюць. Сведкі апранаюцца адналькава. Мужчыны коратка падстрыжаныя. У жанчын акуратна сабраныя валасы.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# вёска, якая абвергла Карла Маркса


У Альшанах растуць новыя дамы. Прычым гэта не аграгарадок. Альшанцы будуюцца «за свае».

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

яе акультурыў. Цяпер у яго там 25 га яблыневага саду. Першыя 3 га засадзіў 7 гадоў таму. Сартоў некалькі: «Чэмпіён», «Лігол», ананасавы «Голдэн»... Яшчэ вырошчвае капусту, буракі, моркву, агуркі, памідоры. Кавуноў у Альшанах не садзяць.

Яблыкі раней ішлі на Мінск. Але пасля ўвядзення Расіяй эмбарга на садавіну з Еўрасаюза тэлефон фермера разрываўся ад званкоў з Расіі. Праўда, як пачалі збіраць ураджай, Беларусь ператварылася ў «перавалачную базу» для яблыкаў з Малдовы, Украіны, Польшчы, кажа фермер. Іх садавіна таннейшая, бо ўкладанні ў іх меншыя. А свой ураджай даводзіцца прадаваць за бясцэнак.

Закладка саду патрабуе да 20 тысяч даляраў інвестыцый на гектар: саджанцы, бамбук альбо калкі, дрот, слупы... Сёлета засталося гектараў 6 непадвязаных яблынь, дык дрэўцы былі паўляжачыя. Фермер і рады б укласці грошы, але няма лішніх. Якаў кажа, што холдынгам з большымі садамі дапамагае дзяржава, меншым — не. «А калі ён загубіў той сад — яму зноў дапамогуць. У выніку і саду няма, і грошы ўкладзены».

Залатыя часы для фермера Грыба былі да фінансавага крызісу — дзяржава дапамагала тэхнікай, угнаеннямі. А сёлета скарацілі ўгнаенні па льготных цэнах, менш


Пратэстанцкая царква поўная: маладых благаслаўляюць.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

субсідзіруюць. Перад фермерам востра стаіць і пытанне пра сховішча. Кажа, што атрымаць ільготны крэдыт пад яго фактычна немагчыма.

70-гектаравая фермерская гаспадарка — гэта ўжо не малое, а сярэдняе прадпрыемства. У Грыба пастаянна працуюць 15 чалавек плюс наймаюць падзёншчыкаў — скажам, на прапалку, на ўборку капусты. Працаваць прыязджаюць людзі са Століна, з Мікашэвіч, з-пад Пінска, нават за 100 км, з мясцовасцяў, у якіх няма добрай працы.

Наймічка можа зарабіць 150—200 тысяч у дзень, а то і больш. Але іншы і 50 тысяч не заробіць, прызнае Грыб. Гаспадар стараецца сам працаваць разам з найманымі работнікамі: «тады на працэнтаў трыццаць эфектыўней работа пойдзе».

Галоўная праблема фермераў Альшан — зямельны голад. Грыбу частку зямлі далі за 60 км ад дому. Калі літр паліва — даляр, гэта істотна павышае расходы. У цэлым асноўная частка зямлі застаецца ў калгасе.

У красавіку 2012, калі сюды прыязджаў Лукашэнка, фермеры хацелі расказаць яму пра некалькі «мёртвых» калгасаў у ваколіцах, якія неэфектыўна карыстаюцца зямлёй. І прасіць гэтую зямлю ў прыватную ўласнасць. Не выйшла. Перад прылётам фермераў сабралі ў кавярні і выставілі ахову. Паабяцалі паклікаць пазней. Так яны і прасядзелі, пакуль Лукашэнка не адляцеў. У той паездцы ён, між іншым, даў даручэнне пабудаваць у Альшанах лагістычны цэнтр. Праўда, цэнтра няма і дасёння.

**Працяг на старонцы 6.**


У Альшанах няма дэмаграфічнай праблемы.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Вяселле па-альшанску**

Пасля таго, як маладыя прымаюць рашэнне ажаніцца, сем'і сустракаюцца ў бацькоўскай хаце будучай жонкі. Выбар дзяцей бацькі не аспрэчваюць.

На такіх запоінах (безалкагольных, вядома, бо вернікі не п'юць) абмяркоўваюцца дэталі вяселля, падзел абавязкаў і выдаткаў. Асноўны расход па традыцыі нясуць бацькі нявесты. Сярэдні грашовы разлік на аднаго госця — 20—30 даляраў, не ўлічваючы выдаткаў на ўпрыгожванні, падарункі, касцюмы, фота і відэа для маладых.

Сям'я нявесты рыхтуе і месца вяселля — парнік, дзе ўлетку растуць агуркі. У Альшанах няма вялікага памяшкання, каб змясціць усіх запрошаных гасцей, якіх можа сабрацца больш за 400 чалавек. Прычына такой масавасці — вялікія альшанскія сем'і.

Падрыхтоўка парніка для свята нараджэння новай сям'і пачынаецца за некалькі тыдняў. Зямля ўнутры засыпаюць пілавіннем, а наверх рассцілаюць сухое сена. Дах прыцярушваюць саломай, каб на галовы гасцей не спадаў кандэнсат. Побач з парнікам прыпаркоўваюць фурарэфрыжэратар, у якой альшанскія фермеры возяць сваю прадукцыю на продаж. У ёй захоўваюць ежа для вяселля.

Пасля сустрэчы нявесты пара накіроўваецца ў сельсавет для фармальнай цырымоніі «роспісу». Асноўная ж частка вяселля адбываецца ў Доме малітвы ў нядзелю. На служба чытаюць Святое Пісанне, а бацькі жаніха ў сваёй малітве да Бога благаслаўляюць маладую пару, якая ў гэты час стаіць на каленях. Пасля службы да пары ставяцца як да паўнавартаснай сям'і.

Затым маладыя робяць святочную фотасесію для хатняга альбома, звычайна для гэтага яны ездзяць у Столін — шыкоўны парк XIX стагоддзя. Застолле пачынаецца а 15-й гадзіне і першая частка вяселля сканчаецца а 18 гадзіне на перапынак. Ён неабходны, каб аднавяскоўцы мелі час скончыць гаспадарчыя справы ў сваіх дамах.

А 20-й гадзіне пачынаецца другая частка свята, якое цягнецца да ночы.

# Альшанскі цуд: вёска, якая абвергла Маркса

Працяг са старонкі 5.

### Пачалі адпачываць

Альшаны не ведаюць дэмаграфічнай праблемы. У пратэстанцкіх сем'ях вялікая нараджальнасць. У адзінай школе нейкі час даводзілася вучыцца ў тры змены. Школу рэканструявалі і вучняў развялі на дзве змены. І вырашылі пабудаваць яшчэ і пачатковую школу. Праўда, пакуль яе будавалі, узнікла патрэба не ў пачатковай, а ў сярэдняй — перад самым адкрыццём у 2011 яе перапрафілявалі. Цяпер тут дзве сярэднія школы.

Моладзь у Альшанах застаецца. Да 18 гадоў, працуючы з бацькамі, можна назбіраць на ўласны аўтамабіль. «Хаця пытанне заробку — пытанне цяжкае. Камусьці здаецца, што грошы з неба сыплюцца. А хто з намі пажыве месяц, той разумее, што ўсё не так проста», — заўважае Логвінка.

На што трацяць грошы? На сябе. Юрый адзначае, што апошнімі гадамі пачалі выязджаць на адпачынак — у Турцыю, Егіпет. «Калі ёсць лішняя капейка. Бо калі сям'я вялікая, аддаць такія грошы за 10—14 дзён... Гэтая капейка мае месца для іншага: дзяцей трэба абуць, апрануць, адправіць у школу». Але тут хто працуе — той і мае.

Альшаны растуць. Новыя дамы паўстаюць у розных канцах вёскі. Маладыя ўзводзяць сапраўдныя палацы. Купляюць дарагія машыны. З'язджаць з Беларусі і не думаюць.

### «Поспех нараджае зайздрасць»

«Пратэстанты — пяцідзясятнікі — тут з'явіліся ў 1927. А сёння мы маем каля 1700 дарослых, якія прынялі хрост. У нас гэта дазволена з 18 гадоў, калі чалавек усведамляе, што ён робіць. Дзяцей у нядзельнай школе ў нас каля тысячы: іх вучаць Бібліі», — расказвае Юрый Логвінка.



Падарункі маладым уручаюць дзеці. Зямлю ў парніку да вяселля высцілаюць пілавіннем і наверх саломай.



Пасля сезона агуркоў праца не заканчваецца. Да маразоў вяскоўцы займаюцца капустай.



Вагі на аптовым рынку Альшан.



Унутры ў парніку ідзе вяселле, у рэфрыжэратары стаяць запасы прадуктаў, а мужчыны-госці выйшлі пагаварыць.

Пратэстанцкая царква ў Альшанах уражвае сваёй веліччу. Пабудавалі яе ў 1990-х вернікі за свае грошы — да гэтага маліліся ў будынку, які паўстаў яшчэ падчас нямецкай акупацыі. Нядаўна да царквы зрабілі яшчэ і прыбудову — усе не змяшчаліся падчас службы. Побач выкупілі і два надзелы зямлі для паркоўкі.

Тут не існуе дзесяціны, калі дзясятую частку прыбытку ты мусіш аддаць на патрэбы царквы. Людзі ахвяруюць самі, хто колькі зможа. І гэтага хапае. Дапамагае грамада Альшан і іншым, меншым цэрквам.

Як ужываюцца пратэстанты з астатнімі? Па-рознаму, не абыходзіцца і без зайздрасці. «Трэба часам перацярпець, даравать, не заўважаць. Ёсць людзі з пачуццём зайздрасці. Адкуль яно? У Бібліі напісана: поспех паміж людзьмі нараджае зайздрасць. Добра, калі яна на ўзроўні сэрца, бо яна ж можа нейкім чынам сябе і праявіць...»

### Чаму там не тут?

Калі б ва ўсёй Беларусі было столькі евангелістаў, была б яна такой багатай, як Альшаны, уся краіна? Відаць, так.

Альшаны такія ж, як любая іншая вёска Беларусі. Тая ж зямля, балоты ды супесак. Тыя ж хлопцы, таксама служаць у войску, таксама любяць машыны. Тыя ж дзяўчаты, тыя ж бабулькі.

Але такая квітнеючая эканоміка — толькі ў Альшанах. Такая заможнасць. Такія дамы багатыя толькі ў Альшанах. Такая аптымістычная дэмаграфія — толькі тут. Тут і ў іншых пратэстанцкіх вёсках Палесся.

Вось так Альшаны, Столінскі раён, абверглі Карла Маркса. Не быццё вызначае свядомасць, а свядомасць вызначае быццё.

**Сяргей Макарэвіч, Альшаны—Мінск**

**Фенаменальныя Альшаны**

На сёння Альшаны — адзін з самых паспяховых у краіне населеных пунктаў. Высокі ўзровень жыцця, сацыяльная стабільнасць і прырост насельніцтва ствараюць «альшанскі феномен». Працавітасць, стабільнасць у сямейным жыцці, адсутнасць міграцыі моладзі ў гарады, нізкі ўзровень злачыннасці — усё гэта мае рэлігійны падмурак.

У адрозненне ад беларускіх праваслаўных і католікаў, пяцідзясятнікі ствараюць асаблівую суполку са сваім сацыяльным парадкам, які грунтуецца на рэлігійных прынцыпах.

Вучэнне хрысціян веры евангельскай пачало распаўсюджвацца ў Беларусі ў 1920-я. Яго прынеслі беларусы, што выязджалі на заробкі ў Амерыку і там прынялі хрышчэнне. Яны і пачалі прапаведаваць.

Як расказвае пастар Уладзімір Чынікайла, праваслаўная царква ў Альшанах у 1920—30-я цалкам страціла свой уплыў. Гэта было звязана з тым, што прысланы на службу бацюшка, расійскі афіцэр, не здолеў паразумецца з вяскоўцамі.

У савецкі час вернікі ўладкоўвалі жыццё згодна з евангельскімі прынцыпамі светаўспрымання. Яны імкнуліся максімальна адмежаваць сваіх дзяцей ад свецкай адукацыі. Па рэлігійных пераканадодзеннях яны не ўступалі ў камсамол, а таму пытанне пра вышэйшую адукацыю не стаяла, і моладзь не выязджала з вёскі.

Так у Альшанах утварылася самая шматлікая ў Беларусі грамада кансерватыўных пяцідзясятнікаў. Актыўныя вернікі ствараюць рэлігійную большасць у вёсцы, дзе налічваецца каля 8000 жыхароў. У кожнай пратэстанцкай сям'і выхоўваецца ад 3 да 15 дзяцей.

**Настасся Даманская, даследчыца рэлігіі**

Члены злачыннай групоўкі адседзелі і папаліся на новых злачынствах.

# Банда «пажарнікаў» зноў выйшла на авансцэну

У 1990-х групоўка «крышавала» ўвесь Гомель. Пасля іх накрылі сілавікі. І ў сярэдзіне 2000-х адправілі за краты. Праўда, не ўсім адмералі вялікія тэрміны. Хто атрымаў ад 3 да 8 гадоў, паспелі адляжаць бакі на нарах і выйсці на свабоду. З прагай дзейнасці — злачыннай. За гэтую восень былыя «пажарнікі» паспелі ўжо тройчы адзначыцца ў крымінальных хроніках.

20 верасня на адным з лецішчаў пад Гомелем прагучаў выбух. Пазней следчыя высветлілі, што такім чынам гараджанін хацеў правучыць былога кампаньёна па бізнэсе — адбіць у яго грошы. Крымінальную справу завялі па «хуліганцы». 42-гадовы падазраваны арыштаваны. Пры ператрусе ў яго доме знайшлі пісталет-кулямёт «Agram-2000» з глушыцелем і патронамі. А такі арсенал дадаў да багажу яшчэ адну справу — па незаконных дзеяннях з агнястрэльнай зброяй.

Другі падзельнік па групоўцы пасля вызвалення таксама вярнуўся да ранейшага: скалаціў групу з дзевяці чалавек і «крышаваў» гандляроў спайсамі. Асноўныя фігуранты справы — маладыя людзі 22—24 гадоў. Схема была простая: пакунак псіхатропнага рэчыва прадавалі за 200 тысяч рублёў, з якіх чвэрць атрымліваў гандляр, астатняе асядала ў руках групоўкі. З аднаго такога гандляра «крыша» атрымлівала каля 10 мільёнаў у месяц. А хто не пагаджаўся так працаваць — не цацкаліся: у традыцыях 90-х вывозілі ў лес і прыстаўлялі да скроні пісталет. Тут ужо не пагадзіцца было складана. Але і іх справа ўжо накіравана ў суд.



Працэс у 2010 над лідарамі групоўкі: Алег Чыркоў (З'ян), Генадзь Бярэзін (Пажарнік), Вячаслаў Ліцэнштэйн (Ліцэн).

Яшчэ адзін «пажарнік» адзначыўся ў Рэчыцы, у складзе арганізаванай групоўкі, якая займалася махлярствам. Крымінальная справа толькі рыхтуецца да перадачы ў суд, але ўжо вядомыя некаторыя акалічнасці. Жыхар Рэчыцы займаўся турыстычным бізнэсам і вырашыў набыць новы аўтобус. Выпадковыя знаёмыя паабяцалі дапамогу і пераканалі камерсанта перадаць ім $22 тысячы. Неўзабаве прадпрымальніку паведамілі, што тых грошай для добрага аўтобуса не хапае. Прапанавалі ў пазыку $10 тысяч. Той пагадзіўся, а ўгоду замацавалі натарыяльна. Але ні грошай, ні аўтобуса бізнэсовец не ўбачыў. Пасля ўжо пачаўся пошук махляроў, затрымалі іх па дарозе ў Расію. Меркавалі там адсядзецца. Балазе, месцы для іх знаёмыя: акурат на абшарах Расіі і вылоўлівалі падчас расследавання ў пачатку двухтысячных «пажарнікаў».

**Юлія Шымкевіч, Гомель**

**«Пажарнікі»**

— самае буйное ў сучаснай гісторыі Гомеля крымінальнае фарміраванне, якое ў сярэдзіне 1990-х налічвала да 100 маладых людзей ва ўзросце ад 20 да 25 гадоў. Па матэрыялах абвінавачання, арганізацыю ўзначалілі трое жыхароў абласнога цэнтра (З'ян, Ліцэн, Пажарнік). На працягу дзесяці гадоў яны займаліся рэкетам прадпрымальнікаў, кантралявалі прастытутак, валютчыкаў, таксістаў. На іх рахунку каля ста цяжкіх злачынстваў, у тым ліку згвалтаванні, рабаванні, махлярства, падпал.

Суды над «пажарнікамі» праходзілі ў Гомелі ў 2004—2010. У 2010 да 17 і 19 гадоў пазбаўлення волі былі прысуджаныя лідары групы, якіх затрымалі ў Маскве. Яшчэ каля паўсотні чалавек пасадзілі на тэрміны ад 3 да 16 гадоў.

Маштабная крымінальная дзейнасць «пажарнікаў» стала магчымай пры бяздзейнасці кіраўнікоў праваахоўных органаў вобласці. Некаторыя з супрацоўнікаў пракуратуры і УУС стаялі на забеспячэнні ў бандытаў. Напрыклад, начальнік крымінальнага вышуку быў асуджаны потым да 18 гадоў пазбаўлення волі, яшчэ некаторыя аператыўнікі — да меншых тэрмінаў.

# Італьянскі прафесар загінуў у аварыі ў Беларусі

Ён арганізоўваў **лекаванне беларускіх дзяцей за мяжой.**

Трагедыя здарылася ўначы 12 кастрычніка. На нерэгуляваным чыгуначным пераездзе сутыкнуліся «Аўдзі 100» і цеплавоз, які цягнуў за сабой парожнія чатыры цыстэрны. У легкавіку — тры трупы. Усё адбылося каля в. Шэметава ў Смалявіцкім раёне. Гэта каля самага Нацыянальнага аэрапорта. Туды і кіравалася аўто. 49-гадовы кіроўца-расіянін вёз на самалёт італьянскага прафесара. Суправаджала іх беларуска.

Пасля аварыі высветлілася, што 60-гадовы прафесар Лучана Фэста жыў у Бергама (горад на поўначы Італіі) і быў спецыялістам-радыёлагам. У нашу краіну ён прыязджаў не першы год: быў удзельнікам міжнародных праектаў для беларускіх дзяцей з раёнаў, пацярпелых ад выбуху на Чарнобыльскай АЭС. Арганізоўваў іх выезд на сваю радзіму. Ён — бацька дзвюх дачок.

У апошняй паездцы Фэста быў разам са сваім калегам. Але кіраваліся ў аэрапорт асобна. Эрмэта Сагеці пра трагедыю даведаўся, калі ўжо знаходзіўся ў самалёце. «Лучана быў адным з нас, хто аддаваў дзецям усё сваё майстэрства. Ён быў неацэнны як кансультант пры арганізацыі выезду дзяцей у Італію. Быў актыўным і дзейным», — адзначыў у інтэрв'ю італьянскай прэсе Сагеці.

Вядома, што ў Беларусі прафесар супрацоўнічаў з Бялыніцкай дапаможнай школай-інтэрнатам для дзяцей-сірот. У той аварыі загінула і супрацоўніца ўстановы, якая суправаджала Лучана ў аэрапорт — 31-гадовая Ірына.

«Мы вучыліся разам у школе. Пра Іру мала што магу расказаць, паколькі блізка не кантактавалі. У яе сяброўак, як такіх, не было — сябравала з усімі аднолькава. На пахаванні было шмат сказана добрага пра яе кіраўніцтвам інтэрната. Вы б з імі пагаварылі», — расказала адна з аднакласніц.



Дырэктар інтэрната, праўда, не захацеў і праз прэсу выказаць добрыя словы пра былую супрацоўніцу. Ён адмовіўся гаварыць пра трагедыю. Але пра жанчыну, не хаваючы расчаравання ад яе смерці, узгадваюць яе гадаванцы.

«Надта добрай была, — кажа Іван. — Я яе паважаў, са мной у Італію ездзіла — яна гаварыла паітальянску. Вучыла нас, як у жыцці трэба рабіць».

Арцём Пасюкоў таксама прыгадвае толькі станоўчае. «Ірына Андрэеўна спачатку працавала педагогам, а пасля стала выхавацелькай. Яна адрознівалася ад іншых выхавацеляў сваім стаўленнем да дзяцей: была добрай, ніколі не сварылася на нас, дапамагала як магла. Любіла нас як сваіх. І пасля вучобы падтрымлівала сувязі. Калі прыязджаў у школу, цікавілася, як маё жыццё. Я расстроіўся, калі даведаўся пра яе смерць. Заплакаў...»

Арцём памятае і Лучана Фэста: быў вясёлы і раздаваў цукеркі.

Ірына была ў разводзе. Гадавала дачку, якая толькі пайшла ў чацвёрты клас. «Шкада Анюту! Як вось ёй цяпер патлумачыць, што мамы больш няма? Балюча», — спачувае знаёмая жанчыны. Як расказалі ў Бялынічах, за рулём «Аўдзі» ў тую ноч быў муж Ірынінай сястры. Двайная трагедыя для адной сям'і.

Па факце аварыі Следчы камітэт завёў крымінальную справу. Мяркуецца, што кіроўца парушыў правілы праезду чыгуначнага пераезду, што пацягнула па неасцярожнасці смерць пасажыраў.

**Сяргей Макарэвіч**

**Вышук**



Мужчыну на фотаробаце падазраюць у нападзе на жанчын у Мінску. Прыкметы: на выгляд 30—35 гадоў, рост каля 175 см, валасы русыя альбо цёмна-русыя, нос шырокі. Быў апрануты: цёмна-сінія штаны з вертыкальнымі палоскамі, запраўленыя ў гумовыя боты, вязаную шапку. Калі вы пазналі чалавека па апісанні, звяртайцеся ў Фрунзенскі РАСК Мінска на (017) 208-76-20.

## Сцісла

**Паласнуў нажом у бальніцы**

22-гадовы і 31-гадовы пацыенты ляжалі ў адной палаце ў супрацьтуберкулёзным дыспансеры ў Ваўкавыску каля паўгода. У адзін з вечароў выпівалі. Першы пачаў пісаць праз сацыяльныя сеткі агульнай знаёмай, другі прыраўнаваў: дастаў нож, схапіў суседа за галаву і правёў лязом па шыі. Пашкоджанні аказаліся лёгкімі.

**Настаўніца скруціла рэцыдывіста**

У Шчучыне мясцовы жыхар падпільнаваў дзяўчыну, адабраў у яе сумачку і кінуўся ўцякаць. Ахвярай аказалася маладая настаўніца, якая праявіла незвычайную адвагу. Дзяўчына дагнала крыўдзіцеля і з дапамогай неабыякавых людзей скруціла яго. Высветлілася, што нападнік быў судзімы чатыры разы за крадзяжы. У сумцы, між іншым, быў толькі мабільны тэлефон, невялікая сума грошай і дамскія рэчы.

**Забілі сям'ю і спалілі**

17 кастрычніка ў лесе на ўскрайку Жлобіна знайшлі згарэлыя «Жыгулі», а ўнутры былі тры трупы. Аказалася, што гэта муж (1961 г.н.), жонка (1965 г.н.) і іх 30-гадовы сын. Іх забілі ў хаце, вывезлі ў лес і падпалілі. Па падазрэнні затрыманы сваякі малодшы сын і жонка старэйшага, абое 1992 года нараджэння.



**Пенсіянер адбіўся сякерай**

51-гадовы рэцыдывіст напаўп'яны разбіў акно і залез у хату пенсіянера ў Мсціслаўскім раёне. Спрабаваў скрасці чыгунную патэльню, пагражаючы нажом гаспадару. Але 84-гадовы пенсіянер кінуўся на абарону маёмасці: схапіўся за сякеру і стукнуў абухом злачынца па галаве.

**КМ**

# Lockheed Martin абяцае камерцыйны тэрмаядзерны рэактар усяго праз 10 гадоў

Амерыканская кампанія Lockheed Martin, найбольш вядомая вырабам самалётаў, заявіла аб магчымасці стварыць працоўны прататып рэактара тэрмаядзернага сінтэзу цягам пяці гадоў. А яшчэ праз пяць гадоў пасля з'яўлення прататыпа магчыма наладзіць серыйны выпуск тэрмаядзерных сілавых установак.Лідар праектнай каманды Томас Макгвайр кажа, што рэактар магутнасцю 100 МВт па памеры будзе не большым за стандарны марскі грузавы кантэйнер.

Тэрмаядзерная рэакцыя заключаецца ў зліцці атамных ядзер з вызваленнем вялікай энергіі. У натуральных умовах такія рэакцыі адбываюцца ў зорках. А вадародны выбух ёсць праявай некіраванай рэакцыі тэрмаядзернага сінтэзу, створанай чалавекам.

Для ажыццяўлення рэакцыі тэрмаядзернага сінтэзу неабходная тэмпература ў сотні мільёнаў градусаў Цэльсія. Утрымліваць распаленую да такой тэмпературы плазму можна з дапамогай



звышмагутных магнітаў. Рэакцыя тэрмаядзернага сінтэзу з'яўляецца больш кіруемай і экалагічнай за рэакцыю радыеактыўнага распаду, што выкарыстоўвецца цяпер АЭС. У праектуемым Lockheed Martin рэактары мусіць адбывацца зліццё двух ізатопаў вадароду: дэйтэрыя і трытыя.

Аднак заяву Lockheed сустрэлі хутчэй са скептыцызмам. Многія прынялі заяву кампаніі за піярход для прыцягнення сродкаў. У свеце налічваецца не адзін дзясятак тэрмаядзерных рэактараў, але ўсе яны ўяўляюць сабой выпрабавальныя ўстаноўкі. У тэорыі рэактары тэрмаядзернага сінтэзу застаюцца адным з самых перспектыўных шляхоў атрымання гіганцкай колькасці экалагічна чыстай энергіі.

На жаль, яшчэ не адзін рэактар не можа выканаць крытэр Лоўсана — дасягнуць неабходных параметраў кіруемай тэрмаядзернай рэакцыі, пры якой энергія рэакцыі пераўзыходзіць энергію, затрачаную на яе падтрыманне. Зрабіць гэта плануецца на міжнародным рэактары ITER у Францыі, але яго пабудуюць толькі ў 2020-х, а потым мінімум два дзесяцігоддзі плануюць выкарыстоўваць у даследчых мэтах. Таму навукоўцы называюць стварэнне тэрмаядзернага рэактара справай па меншай меры 40–50 гадоў. Калі Lockheed Martin сапраўды зможа вырабіць прыдатную для камерцыйнага выкарыстання ўстаноўку ў такі сціслы тэрмін, гэта стане сапраўднай рэвалюцыяй у галіне энергетыкі.

**Кірыла Хілько**

**Фотафакт**



**Пад Гомелем правялі вяселле па язычніцкім абрадзе**

21 верасня на старажытным свяцілішчы радзімічаў у вёсцы Хальч Веткаўскага раёна адбылося вяселле па паганскім абрадзе.

Незадоўга да афіцыйнай цырымоніі ў загсе Аляксандр і Марына вырашылі правесці вяселле на месцы, якое было культавым для жыхароў Гомельшчыны дахрысціянскай эпохі.

Аляксандр Кавалькоў распавёў, чаму яны з жонкай выбралі менавіта такі спосаб асвяціць свой шлюб: «Мы, як толькі пачалі сустракацца з Марынай, ужо думалі, што правядзём вяселле «па-тутэйшаму». Гэта было не проста рашэннем, а нашым унутраным досведам і адчуваннем».

# Кнігу Ігара Бабкова назвалі найлепшым усходнееўрапейскім раманам

Пісьменнік атрымаў літаратурную прэмію **Вышаградскай групы**.

Як расказаў Ігар Бабкоў, гэтая прэмія прысуджаецца краінамі Вышаградскай групы сваім братам па розуме з іншага боку мяжы (Еўрасаюза) — Беларусі, Украіна, Малдове, Грузіі, Арменіі і Азербайджану. «Гэта цяпер называецца Усходняя Еўропа. Расія ў групу не ўваходзіць, яна — Еўразія».

Прэмія прадугледжвае грашовы прыз — 1300 еўра. А да канца года павінен з'явіцца славацкі пераклад рамана.



«Ведаю, што прэмія існуе не першы год, у розныя часы былі намінаваныя Разанаў, Марціновіч, Дубавец, Бахарэвіч... Кожны год славісты выпраўляюцца ў доўгае падарожжа па рэгіёне, сустракаюцца з крытыкамі, ходзяць па кафедрах і кнігарнях. Потым засядаюць эксперты і крытыкі. А затым — журы».

Узнагароджванне адбудзецца 3 снежня ва ўніверсітэце Яна Коменскага ў Браціславе.

Сёлета Ігар Бабкоў з «Хвілінкай» стаў лаўрэатам літаратурнай прэміі імя Гедройца, якая ўручаецца штогод за найлепшую кнігу прозы на беларускай мове.

Вышаградская група — аб'яднанне чатырох цэнтральнаеўрапейскіх дзяржаў: Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Венгрыі.

**Вольга Гарапучык, СМ**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Меркаванне пра размеркаванне, «белую футру» і цырульні для БРСМ

Ігар Бузоўскі, той, што першы сакратар ЦК БРСМ, заявіў, што беларуская моладзь падтрымлівае дзяржаўнае размеркаванне выпускнікоў навучальных устаноў. Маўляў, час, каб адмяніць яго, не наспеў.

Заяве гэтай два тыдні. Майму асабістаму размеркаванню 51 год.

Атрымліваецца, што за паўстагоддзя нічога ў дзяржаве не змянілася. Не змянілася нават тое, што актыўнае сяброўства ў камсамоле, а зараз у БРСМ, давала і дае пэўныя магчымасці ўладкавацца ў жыцці па ўласным жаданні.

Што праўда, жаданні і магчымасці розныя. Раней — каму Мінск, каму Масква, каму палеская вёска. Сёння — каму чарнобыльская вёска, каму Парыж. Мінск — гэта так, па дарозе...

Паўстагоддзя таму, калі ты драў горла на камсамольскіх падмостках ці рваў на грудзях савецка-патрыятычную кашулю, Мінск, ну а потым і Масква, былі гарантаваны — ці то праз «органы», ці то праз партыйна-партызанскія сувязі, ці то праз «органы» і сувязі разам.

Ці то праз дачок уплывовых асоб.

«Вось пабачыце, з гэтым белым футрам ажанюся!» — аб'явіў знаёмы першакурснік з журфаку, калі ўпершыню ўбачыў яе здалёк.

Як сёння, перад вачыма пранізлівы снежаньскі туман, клубіцца вакол жоўтых ліхтароў... «Белае футра» пераходзіць вуліцу, наўпрост да дома, дзе жывуць знакамітыя навукоўцы. Я ведаю «белае футра», дачку акадэміка, мы сябруем... «Валера, — смяюся, — яна выходзіць замуж за майго сябра, ужо пярсцёнкі купленыя...» Валера, які прыехаў аднекуль з расійскай правінцыі і ходзіць толькі ў выцвілай гімнасцёрцы, моўчкі ўсміхаецца, нават пазнаёміць не просіць...

Тое, што падалося жартам, здзейснілася адразу пасля Новага года. Напярэдадні нейкім чынам ён апынуўся ў адным з ёй самалёце да Рыгі... Такое вось размеркаванне па ўласным жаданні.

**Сёння — каму чарнобыльская вёска, каму Парыж. Мінск — гэта так, па дарозе...**

Ну, а якая «раёнка» не дачакалася «маладога спецыяліста», меркаваць не выпадае...

Зрэшты, класічны сюжэт. Мо і для астатняга свету, дзе моладзь не ведае дзяржаўнага прымусу. Адно толькі адрозненне: наша дзяржава гуляе ў сваю гульню, жыццё — у сваю.

А тыя, хто не драў горла, не рваў кашулю і не заляцаўся да «белых футраў», сабраліся вясновым вечарам 1963 года ў пакойчыку студэнцкага інтэрната на Дзімітрава (таго, што нядаўна знеслі з праспекта Пераможцаў), разаслалі на падлозе мапу Беларусі, парасстаўлялі па «сваіх» вёсках кілішкі...

Між тым кожны, хто палічыць, што такім чынам святкаваўся дзяржаўны прымус ці аплакваліся няспраўджаныя мары, вельмі памыліцца. Амаль усе, хто з'язджаў тады настаўнічаць у вёскі, адзначыліся падчас вучобы ўпартай, а хто і таленавітай навуковай працай, шмат каго навуковыя кіраўнікі цягнулі ў аспірантуру... Не, у тых кілішках на мапе Беларусі было нешта іншае.

Іншы «напой» быў у тых кілішках.

А вось у таямнічыя лабірынты дзяржаўнага размеркавання патрапіў праз год настаўніцтва, калі мне прапанавалі працу ў «Чырвонай змене», і я вярнуўся ў родны горад. Вядома, здрадзіў...

Праца не пайшла. Адна справа — пісаць у газету, зусім іншая — у газеце працаваць. Праз два месяцы Жора Клябанаў, мо хто памятае вядомага на той час журналіста, выцягнуў аднекуль з нетраў вялізнага пісьмовага стала гару зжаўцелых папак і кінуў на абдзёртую паверхню: «Тут лісты чытачоў за дванаццаць гадоў. Трэба адказаць». Ледзь не да столі ўзняўся едкі пыл, і я зразумеў — трэба сыходзіць.

Сышоў у аблана: хачу вярнуцца ў вёску. Адказ — няма вакансіяў.

Сышоў у Міністэрства адукацыі: хачу вярнуцца ў вёску. Адказ — няма вакансіяў.

Напісаў чамусьці ў Калугу: у любую вёску паеду. Уласна кажучы, ведаю чаму — Салжаніцын, «Матрёнин двор»... Адказ — не маем патрэбы.

Па ўсім СССР, не толькі па Беларусі, стаяў стогн: не хапае вясковых настаўнікаў!

...Сённяшняе вясковае настаўніцтва — асобная балючая тэма. Шукаць адказы, чаму ўлада і яе «баявы атрад» так зацікаўлены ў захаванні гэтага затупелага інструмента прыгонніцтва, таксама не выпадае — яны даўно знойдзены. Адно нагадаю: БРСМу вельмі хочацца і надалей існаваць на дзяржаўныя грошы.

Тыя б грошы — ды на падтрымку іншых грамадскіх моладзевых структур. А тут — «падайце вечна маладым».

І падаюць. І не толькі з бюджэту. Сам бачыў у цырульнях аб'явы пра зніжкі для чальцоў БРСМ.

Не ведаю, ці захаваліся тыя зніжкі дасюль, стрыгчыся ў цырульнях для моладзі мне ўжо без патрэбы. Але ведаю, што іншую моладзь, напрыклад, з «Маладога фронту», час ад часу размяркоўваюць па іншых цырульнях. Тых, дзе ўвогуле стрыгуць бясплатна.

Без уліку жадання.

*kamerton_41@mail.ru*

# Мова ці вата. Як закрыліся папулярныя курсы беларускай мовы

**Кацярына Кібальчыч** закрыла праект.

Пачалася ўся шура-бура з нататкі шэф-рэдактара сайта by.tribuna.com (заўважым, што сайт належыць расійскаму медыяхолдынгу sports.ru) Максіма Беразінскага аб атмасферы на матчы нацыянальных зборных Украіны і Беларусі.

«Украінцы прыехалі ў Беларусь і прывезлі з сабой [...] дух свабоды, які ў іх прасякнута ўсё. Мы ўспомнілі, што і на футболе можна паліць напалмам. Можна гнаць сваю каманду наперад. Можна крычаць і атрымліваць ад гэтага кайф. Можна трохі расслабіцца і не чакаць, калі гумавая дубінка ударыць цябе па галаве», — напісаў Беразінскі.

На гэты тэкст адрэагавала журналістка Першага расійскага тэлеканала, заснавальніца курсаў «Мова ці кава». Яе пост у фэйсбуку мала чым розніўся ад паведамленняў навін расійскага тэлебачання.

«Гэта вось вельмі важны артыкул, дзе наіўны чалавек шчыра называе рэчы сваімі імёнамі. Кайф — гэта ключавое слова Майдану. Толькі ім можна растлумачыць масавае вар'яцтва адукаваных людзей, якія аслеплі на адно вока, дакладней выкалалі яго сабе добраахвотна. Толькі пад кайфам можна захапляцца «воінамі святла», якія на танках нясуць еўрапейскія каштоўнасці «цёмным, неадукаваным» масам ў Данбасе, не лічачы іх нават людзьмі, а толькі казуркамі», — працягнула Кібальчыч.

Яе выказванне было негатыўна ўспрынятае карыстальнікамі інтэрнэту. Асабліва, калі ўлічыць, што дзяўчына не першы год арганізоўвала курсы «Мова ці кава», як у Маскве, гэтак і ў Мінску. Курсы атрымаліся вельмі папулярнымі, на іх прыходзіла моладзь.

Журналіст радыё «Свабода» Віталь Цыганкоў прагледзеў рэпартажы Кацярыны Кібальчыч на Першым тэлеканале. «Угадайце, чыя цытата? Жырыноўскі, Дугін, Кісялёў?» — піша ён.

«[На выборах у Вярхоўную Раду] Украина будет выбирать между ультранацизмом и просто нацизмом. Большинство из осторожности выберут «просто», что называется «с человеческим лицом».

Так, [гэта] яна. Каця Кібальчыч. Апошні рэпартаж на ОРТ. І цяпер ахвотныя могуць спрабаваць даказваць, што гэта «аўтарская пазіцыя», «свой погляд» і гэтак далей.

Гэта ўжо нават не проста прапаганда, гэта прапаганда нянавісці, той самы «hate speech», за які саджаюць у цывілізаваных краінах. І аўтар такіх рэпартажаў штосьці кажа нам пра этычную пазіцыю і дэгуманізацыю апанента?!» — напісаў Цыганкоў.

Варта таксама адзначыць, што Кібальчыч — аўтарка фільма пра Плошчу-2010 «Беларуская мара».



**Людзей на «Мову ці каву» набівалася столькі, што не было дзе сядзець.**



**Франак Вячорка з Кацярынай Кібальчыч разышоўся.**

Пры ўсім сваім неадназначным стаўленні да Аляксандра Лукашэнкі з успрыманнем Уладзіміра Пуціна ў яе зусім іншая гісторыя.

«Я не брала ўдзелу ў расійскіх выбарах, але калі б ведала, што ад майго голасу залежыць вынік і пайшла галасаваць, з усіх кандыдатаў абрала б Пуціна, хоць я і не ягоны фанат», — казала Кацярына ў інтэрв'ю «НН» у лютым 2013 года.

«Заявы Каці Кібальчыч пра ўкраінскія падзеі не маюць нічога супольнага з менскімі курсамі «Мова ці кава».

«Ад пачатку канцэпцыяй «Мовы ці кавы» (якую прапанавала сама Каця Кібальчыч) было тое, каб вакол іх не было палітычнага арэолу. Але сваімі заявамі Каця сама і знішчыла гэтую канцэпцыю. Для мяне вельмі важна захаваць «Мову ці каву», але Каця кажа, што будзе працягваць публічна выказваць сваю пазіцыю, якая мне, як і большасці каманды, падаецца цынічнай і амаральнай», — напісаў Францішак Вячорка.

Некалькі дзён працягваліся закрытыя перамовы каманды «Мовы ці кавы» з Кацярынай Кібальчыч. 15 кастрычніка мусіў стартаваць новы сезон курсаў. У выніку Кібальчыч абвесціла збор людзей у галерэі партала tut.by, але прыйшлі адны журналісты. На той сустрэчы яна і абвесціла аб спыненні курсаў. Перадаваць брэнд вядучым Куставай, Вячорку і Алесю Залеўскаму Кібальчыч не захацела.

Гэта не першы раскол на курсах. У свой час ад «Мовы ці кавы» аддзялілася «Мова нанова» — тады Кібальчыч не знайшла супольнай мовы з Глебам Лабадзенкам і Алесяй Літвіноўскай. Няма сумневаў, што ў хуткім часе з'явіцца і яшчэ адна ініцыятыва.

На старонцы 10 мы прапануем дыскусію паміж Кацярынай Кібальчыч і Андрэем Дынько.

**Зміцер Панкавец**

**Як праходзяць курсы беларускай мовы ў Мінску?**

Незнаёмая дзяўчына, што стаяла побач са мной, сказала сябру: «Калі б рускія пабывалі на такіх занятках, яны б абралі беларускую мову, бо ад гэтай мовы хочацца лятаць».

Як я зразумела пазней, гэта была масквічка.

Моўныя курсы «Мова ці кава» і «Мова нанова» — гэта не нудныя акадэмічныя заняткі, як у школе ці ўніверсітэце. Гэтыя курсы хутчэй — інтэрактыў і дыялог, падчас якога засвойваюцца словы. Людзей на курсы прыходзіць свет, часам некалькі соцень. Арганізатары выкарыстоўваюць праектары і паказваюць відэа.

**Мова нанова**

Самымі папулярнымі з'яўляюцца курсы «Мова нанова», якія вядзе харызматычны журналіст Глеб Лабадзенка і філолаг Алеся Літвіноўская. **Яны збіраюцца ў галерэі «Ў» кожны панядзелак а 19 гадзіне, і туды, бывае, не прабіцца (адрас: Незалежнасці, 37а).**

У курсаў ёсць свой сайт movananova.by.

Гэтыя курсы пашыраюцца па ўсёй Беларусі. Цяпер яны ідуць таксама ў Бабруйску, Гродне, Баранавічах, Брэсце, Нясвіжы, Маладзечне, Віцебску, Магілёве. За мяжой заняткі адбываюцца ў Кракаве і Кіеве.

Дакладную інфармацыю пра час і месца заняткаў можна знайсці на сайце або праз мэйл movananova@gmail.com.

**Моваведа**

Курсы «Моваведа» вядзе беларускі хрысціянскі прапаведнік і журналіст Аляксей Шэін. Яны праходзяць у трохі іншым стылі, у больш павольным рытме. **Заняткі ідуць кожны чацвер а 19.00 на вуліцы Скарыны, 12, БЦ «Валеа», 3-ці паверх, канферэнц-зала пляцоўкі «Фабеас».**

Самыя ж інтэрактыўныя заняткі ў форме ток-шоу, на курсах «Мова ці кава», часова спынілі сваё існаванне. Асноўнымі вядучымі былі тэлевядучая і педагог Валярына Кустава і журналіст Франак Вячорка.

**Вольга Гарапучык**

# Пяць нярускіх капеек, ці Пра карысць самаметамарфозы

**Стась Карпаў** пра тое, як адбылося перараджэнне Кібальчыч.

Люблю халіварчыкі. Не таму, што ў мяне псіхалогія кантралёра, а таму, што халіварчыкі, ведаеце, дазваляюць і нават прымушаюць фармуляваць. На працягу апошніх некалькіх дзён усе фармулявалі. Фармулявалі, фармулявалі і выфармулявалі. У першую чаргу Кацярына Кібальчыч абазначыла сваё стаўленне да адэптаў Майдану і гэтых дурацкіх беларусаў, якія носяцца са сваімі лозунгамі, надыхаўшыся ўкраінскай газы.

Сам па сабе яе тэкст мяне цікавіць мала, паколькі ён уяўляе сабой праграмную заяву работніка праграмнага тэлеканала, які праграмуе высокадухоўны электарат. У тэксце казённы сарказм пра нейкія там «еўрапейскія каштоўнасці», пра адсутнасць цвёрдай рукі (якой па асабістых прычынах прагне калі не кожная жанчына, то праз адну) і шмат чаго нецікавага яшчэ. Усё гэта я чуў. Таму я ўсё пра іншае. А дакладней — мяне цікавіць схема, па якой чалавек становіцца «абаронцам планеты ад еўрапейскіх каштоўнасцяў». Такім калектыўным прылепіным — не па адметнасцях будовы галавешкі, а па свядомым выбары.

Вось жыў сабе чалавек, жыў. А пасля раз — і пачаў пісаць пра крывавага карупцыянера Парашэнку.

Пра «рабаў у балаклавах», катория «спальваюць жыўцом людзей у Адэсе», збіваюць кандыдатаў у прэзідэнты і грамяць амбасады. І каторыя — о жах! — пяюць «мацерныя частушкі» на стадыёне. А вось чалавек кажа, што пазіцыя ў яго «не столькі палітычная, колькі этычная». О як! Што з ім здарылася? Пульс у норме. Зрэнкі рэагуюць на святло. Страваванне нармальнае. Рэфлексы там усялякія. Ходзіць, функцыянуе, але, як кажуць, ужо — не торт.

Частушкі, чуеш ты. Фі.

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За нявoлю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.
На руінах, папялішчах,
На крывавых іх слядах
Хай груган іх косці ліча,
На бяседу соваў кліча
Баль спраўляць на іх касцях.
Няхай Гітлеру-вампіру
Клююць сэрца, смокчуць кроў;
Сыты быў людскім ён жырам,
П'яны быў крывавым вірам, —
Хай жа гіне звер звяроў!
Клічу вас я на пабеду,
Хай вам шчасцем свецяць дні,
Выразайце людаедаў,
Каб не стала іх і следу
На святой нашай зямлі.

Ла-ла-ла, канечне, няма, але чым горай на сутнасці?

Ну, няхай. Скажам шчыра — не найлепшы Ваш верш. Але скажыце, Янка, класна ж, што на Вас не знайшлося сваёй Кацярыны Кібальчыч. Яна б дала Вам тумам Суворава па галаве і сказала б, што вінаваты ўсё. І займаць бок «партызанаў» — значыць, скакаць на касцях кожнай нявіннай ахвяры. Сказала б Вам, што Вы ўслаўляеце гулагі і тыранію «хлопцаў у варанках». Вось такая ў яе «не столькі палітычная, колькі этычная пазіцыя». Пасля пайшла б фактура з лічбамі па рэпрэсіях на адзін толькі 37-мы год. З працэнтамі яўрэяў у першым бальшавіцкім урадзе. Да.

І што ж нам рабіць? Калі канцэнтрацыйныя лагеры — вось на парогу. Калі спаленыя вёскі і гета? Як нам, Іван Дамінікавіч, прымяніць такую выключную этычную пазіцыю нашай выключнай Кацярыны, а галоўнае — зноў жа — як яе (пазіцыю) вырасціць ў нашым суворым клімаце?

А вырасціць яе вось як.

Справа ў тым, што з дзіцячых гадоў мы ведаем, што сцуль гарохавы — гэта кепска. Гэта вялікі сорам і ганьба, таму быць сцулём не хоча ніхто.

І дзеткі б'юцца, адрываюць адзін аднаму пампоны з шапачак і ставяць сінякі. Каб быць бясстрашнымі. Але вось час ідзе, дзеці растуць, і страх ужо зусім іншы, і пампон адрываць няма каму.

А страшна сказаць, страшна зрабіць. Бо звольняць з працы. Бо пасадзяць. Бо наступяць гумавым ботам на адухаўлёны твар. Але быць адважным хочацца ўсё так жа.

**Працяг на старонцы 11.**

# Кацярына Кібальчыч: «Моя страна сошла с ума»

«Наша Ніва» публікавала мой папярэдні допіс, але з купюрамі і каментарамі, кшталту «далей можна ўжо не чытаць».

Я звяртаюся да рэдакцыі НН з тым, каб апублікаваць тэкст «Моя страна сошла с ума» цалкам і без цэнзуры, без з'едлівых дадаткаў (чытачы самі разбяруцца, ці чытаць далей) і з маім загалоўкам.

Нагадаю, што ў 2013 годзе НН назвала мяне «Асобай года» за грамадзянскую чыннасць. Калі ўжо асоба года не зможа выказаць альтэрнатыўнае меркаванне ў газеце, то хто можа?

**Кацярына Кібальчыч у Фэйсбуку**

**Ад Рэдактара.** Мы з задавальненнем публікуем допіс Кацярыны Кібальчыч, хоць і ўпэўненыя, што яна дэманструе ў ім крайнюю наіўнасць, трапіўшы ў палон расійскай прапаганды.

З задавальненнем — бо захапляемся тым, што яна зрабіла ў мінулым, і разумеем, што погляды могуць і павінны быць рознымі.

У сваю чаргу, прапануем Каці перадрукаваць на сайце Першага канала адказ шэф-рэдактара «Нашай Нівы» Андрэя Дынько, які быў дадзены ёй у Фэйсбуку (глядзіце яго ўнізе пасля артыкула Кібальчыч).

У «Нашай Ніве» можна знайсці самыя розныя погляды. На Першым канале альтэрнатыўнага погляду на падзеі ва Украіне няма ані кроплі.

Нагадаю, што ў 2006 годзе я атрымаў прэмію расійскага Першага канала «За мужнасць і прафесіяналізм» за сваю чыннасць. Калі ўжо лаўрэат прэміі канала не зможа выказаць альтэрнатыўнае меркаванне на ім, то хто можа?

**Андрэй Дынько**



**Кацярына Кібальчыч суправадзіла свой допіс гэтай карцінкай.**

Пытанне тыдня. Хто на фотаздымку побач са мной: а) ватнікі, б) узброеныя трактарысты, в) партызаны г) тэрарысты, д) апалчэнцы, е) Banditen? Варта зрабіць галасаванку.

Пакуль прыстойныя людзі, блізкія да мяне, вымушаныя пісаць у фэйсбуку «сын за отца не отвечает», адэпты секты «пуцінх*йло» шлюць мне абразы і пагрозы.

Ведаеце, я зрабіла дзве істотныя памылкі. Але пра гэта ніжэй. Добра, што вы прачыталі мой папярэдні тэкст — шкада, што не захацелі падумаць. Разумею, што думаць цяжка, таму коратка і тэзісна, ужо без метафараў і сцёбу.

Пазіцыя мая не столькі палітычная, колькі этычная: нельга скакаць на стадыёне і пісаць, што адбываецца свята, калі ідзе грамадзянская вайна і столькі ахвяраў з абодвух бакоў. Гэта катастрофа, трагедыя. І ў чалавека з душой і розумам не можа быць адчування «кайфу і эйфарыі».

Сумленнаму чалавеку немагчыма падтрымаць на 100% адзін з бакоў у такой складанай сітуацыі. У той жа час — кожны бок варта намагацца зразумець. І ні ў якім разе не называць людзей ватнікамі і каларадамі ці майданамі і ўкропамі. Бо гэта дэгуманізацыя апанента, якая вядома да чаго можа прывесці.

Нельга пераставаць сумнявацца. Нельга будаваць еўрапейскую дзяржаву недэмакратычнымі метадамі, на несправядлівасці і злачынствах. Бо тады навошта яна? На мацерных вершыках не будуецца нацыянальная ідэнтыфікацыя беларуса.

Беларуская мова без палітыкі і без антырускасці — гэта не «заходнярускі фальклор», як кажуць некаторыя польскія дзеячы. Наша мова і культура самакаштоўныя. І мая матывацыя займацца беларусізацыяй — любоў да свайго, роднага.

Наконт рэцэнзіі на артыкул пра стадыён. Я зрабіла памылку, якую прызнаю. Мне здавалася, усе разумеюць — ва Украіне ідзе грамадзянская вайна. Для мяне, чалавека які быў у Данецку не раз, гэта факт. Апалчэнцы — мясцовыя жыхары (за рэдкім выключэннем). Яны карыстаюцца вялікай падтрымкай насельніцтва Данбаса.

Другі міф (які я магу пазней аргументавана зняпраўдзіць на падставе дадзеных ААН, АБСЕ, з храналогіяй і з маімі ўласнымі назіраннямі, не пашкадую часу на артыкул) — перакананне ў тым, што «спярша расійская армія ўварвалася, а толькі тады Кіеў паехаў на танках». Выявілася, менавіта так бачыцца карціна большасцю дэмакратычна настроеных грамадзянаў. Я нават не здагадвалася пра глыбіню такіх перакананняў. Высвятлілася, што трэба тлумачыць і гэты момант. Што я мела на ўвазе, калі напісала пра «еўрапейскія каштоўнасці на танках»?

Калі ўвесну ў Данецку, Луганску і іншых гарадах сталі Антымайданы, новай уладзе трэба было ехаць і дамаўляцца-дамаўляцца-дамаўляцца, даваць гарантыі захавання правоў. Я сама размаўляла з людзьмі ў Данецку ў сярэдзіне красавіка — яны гатовыя былі застацца Украінай пры пэўных умовах. Трэба было з імі размаўляць. А не ставіць ваяўнічы ўльтыматум і дазваляць актывістам Еўрамайдану жорстка збіваць кандыдата ў прэзідэнты Алега Царова. Ён можа нам з вамі не падабацца, але гэта быў афіцыйна зарэгістраваны кандыдат, да якога на той час прыслухоўваўся Данбас. Яго збілі, прынізілі, знялі майткі. Гэта было ў будынку тэлекампаніі ў Кіеве, куды міліцыя не прыехала, хоць яе выклікалі. Ніхто не панёс адказнасць. Вы лічыце, што кандыдата збілі правільна? Ат, праблема, «бедный кандидат» напісаў мне адзін супрацоўнік «Белсата». Той самы, які быў сведкам брутальнага збіцця Някляева. І што мы з вамі адчувалі, калі ў 2010 чулі ад Лукашэнкі: «Подумаешь, дали по голове! Ты же мужик»? Ці мы не зазнавалі прыніжэнне і жудасную гвалтоўную несправядлівасць?

У красавіку 2014 на плошчы Данецка яшчэ сядзелі бяззбройныя людзі. Іх ужо тады (можаце спраўдзіць па архівах СМІ) называлі тэрарыстамі і каларадамі. Ім паставілі ўльтыматум: разысціся з плошчы, вызваліць захопленыя будынак, інакш абяцалі танкі з Кіева. Як гэта Януковіч не дадумаўся да такога «элегантнага» вырашэння «пытання Еўрамайдану»?

І што ж адбылося? Адчуўшы пах палёнага, з Расіі прыехалі некалькі тузінаў авантурыстаў імперскіх перакананняў (Стралкоў і К), якія разам з напалоханымі данбаскімі антымайданаўцамі і значнай часткай мясцовых праваахоўнікаў спачатку захапілі арсеналы міліцыі і СБУ ў Славянску, а потым паступова займелі зброю з вайсковых складаў і пакінутых частак. Ужо падчас АТА неаднаразова фіксаваліся пераходы байцоў на бок паўстанцаў разам з тэхнікай. Паходжанне бадай кожнай адзінкі тэхнікі сепаратыстаў вядомае, пытанне вычарпальна асвятляецца ў шматлікіх крыніцах (можна пачаць ад англамоўнай вікіпедыі і нават справаздачаў украінскага войска). Доказаў жа прысутнасці міфічных «сотняў расейскіх танкаў», акрамя начных допісаў у фэйсбуку Авакава, няма.

Калі мы баімся паўтарэння ўкраінскага сцэнару ў Беларусі, трэба дбаць не столькі пра тое, каб Расія не дапамагала сепаратыстам, колькі пра тое, каб сепаратыстаў сярод уласных грамадзянаў не магло быць. Не дзяліць грамадства на «сапраўдных беларусаў», «прарасейскіх акупантаў», «здраднікаў, якія страляюць у народ». Бо мы ЎСЕ народ. І я народ, і вы. Разумееце?

Я пішу вам пра гэта, бо ўжо сорамна маўчаць. І ведаю, што ў Беларусі ёсць людзі з падобнымі меркаваннямі, але яны баяцца выказвацца. Не дзіўна — паглядзіце на колькасць агрэсіўных каментароў, з матам і пагрозамі мне. А тыя, хто выказваюцца, пра што яны пішуць? Адны — агрэсіўна кпяць з ватнікаў і горача падтрымліваюць АТА і «Воинов Света», іншыя ўпарта маўчаць, посцяць коцікаў і фоткі з вандровак. Некаторыя інтэлектуалы з гонарам расказваюць гісторыі пра акты дэфекацыі на Краснай плошчы ў Маскве. Мне пішуць, што большасць думае інакш, таму я не маю рацыю і павінна маўчаць. «Моя страна сошла с ума»? Дзе плюралізм думак? Дзе імкненне да дыялогу? Дзе спробы ўзважанага аналізу? У Беларусі, дзякуй Богу, не ваенны стан. Мы можам уважліва назіраць, спачуваць людзям і рабіць высновы.

Прызнаваць ДНР і прызнаваць факт існавання ў Данбасе людзей са сваімі поглядамі, гісторыяй і правамі — розныя рэчы.

Чаму я больш увагі надзяляю пазіцыі менавіта жыхароў Данбаса, а не Кіева? Таму, што яе ў беларускай прасторы больш НІХТО не тлумачыць.

Сваю пазіцыю па мове я адкрыта выказвала яшчэ да Украіны. На першым занятку «Мова ці кава» ў лютым 2013 разам са студэнтамі быў прыняты галасаваннем Статут курсаў, дзе пункт №1: «Мы талерантна ставімся да людзей з рознымі палітычнымі поглядамі». І невыпадкова!

Бо мова — агульнанацыянальная каштоўнасць, здольная аб'яднаць краіну. Я не стамлюся гэта паўтараць.

Сябры і знаёмыя раней настойліва казалі мне, што «людзі гета» няздольныя вывесці мову з гета. А я спрачалася, што толькі ў супрацы людзей з розным лёсам і поглядамі можна ратаваць мову.

Зараз гучаць заклікі байкатаваць курсы. Калі выявіцца, што рабіць курсы з ідэяй «Мова яднае, мова для ўсіх» далей немагчыма — што ж, мы спрабавалі. Я патраціла на курсы амаль 2 гады жыцця, свае час, грошы і нервы. Але гэта таго было варта.

# Каця, усё проста

Ах-ах-ах — як жа так, матам на трыбунах? — піша Кібальчыч. «Дзе плюралізм думак?» — з праведным гневам пытаецца чалавек, які працуе на расійскім Першым канале. **Андрэй Дынько** адказаў ёй так.



Каця, усё проста. Расія развязала вайну. Адарвала ад суседняй краіны землі з насельніцтвам 6 мільёнаў чалавек. Пры гэтым загінула 4000, а можа быць і 6000 чалавек. Маладых, прыгожых, са сваімі марамі. Ляжаць, гніюць. Таму што Расіі мала адной шостай сушы. Трэба яшчэ, яшчэ. Вось тая харкаўскія фанаты прыдумалі гэтае «Пуцін — х*йло». Гэта іх браты ляжаць забітыя, спаленыя расійскімі «Градамі». Гэта іх зямлю забралі, таму што на ёй былі пляжы, вугаль і газ, а гэтага ў Расіі яшчэ мала, мала.

І яны прыдумалі гэтую песню, у якой адчайны выклік: «Вы нас забіваеце, мы безабаронныя перад вашай армадай, у нас няма ракет, толькі ржавыя старыя БТРы, але мы з вас смяёмся». Так смяецца падлетак, якога б'е банда. Вы мяне ў гразь мачаеце, вы мяне б'яце нагамі, а я ўсё адно не заплачу, усё адно не папрашу літасці. Ла-ла-ла-ла.

Каця і Юрый [Зісер], бываюць выпадкі, калі ёсць чорнае і белае. Вы ж не шукаеце нюансаў і адценняў у анексіі Судэтаў. Няма чаго шукаць адценняў і ў анексіі Крыма, і захопе Данбаса. Часам шуканне «адценняў» роўнае подласці.

**Часам шуканне «адценняў» роўнае подласці**

І, Юрый і Каця, у нас, беларусах, украінцах, літоўцах і паляках, ёсць вострая памяць пра 1930, 1937 і 1941—1945. Мы занадта добра помнім, калі быць свядомым беларусам, украінцам, палякам, літоўцам азначала смяротны прысуд. І ў тым, што гаворыць твой, Каця, Першы канал, мы чуем рэфлектарна знаёмыя сабе словы. І так, нам прыкра, што ты гэтага не асудзіла, хай нават намёкам, хай нават прыватна. Значыць, мы ведаем гэта з 1930 і 1937, калі нас прыйдуць забіваць, ты будзеш на баку забойцаў.

# Памочнік прэзідэнта: Беларусы лічаць галоўнай пагрозай для краіны страту беларускай мовы

Падчас сустрэчы са студэнцкім актывам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта памочнік прэзідэнта па эканамічных пытаннях Кірыл Руды нечакана акцэнтаваў увагу на выніках ліпеньскага апытання Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук. Паводле іх, беларусы лічаць адной з галоўных пагроз для краіны страту беларускай мовы.

Падчас сацыялагічнага апытання, паведаміў ён, рэспандэнтам прапанавалі адказаць на пытанне, якія доўгатэрміновыя для краіны пагрозы (да 2030 года) яны бачаць.

«Пагроза нумар адзін — памяншэнне насельніцтва з-за нізкай нараджальнасці, адказалі 37% апытаных. На другім месцы — страта беларускай мовы, на трэцім — п’янства і алкагалізм, на чацвёртым — наплыў мігрантаў з іншых краін, на пятым — экалагічныя праблемы, на шостым — зніжэнне ўзроўню жыцця», — цытуе Кірыла Рудага журналіст.

Хацелася б, адзначыў ён, даведацца меркаванне насельніцтва аб тым, якой яно бачыць нацыянальную эканоміку ў будучыні. Разам з тым падчас сацыялагічнага апытання ў рэспандэнтаў запыталі аб стаўленні да цяперашняй эканамічнай сітуацыі ў краіне.

«30% ацанілі яе як станоўчую, 30% — як адмоўную, а 30% наогул не разумеюць, што адбываецца ў эканоміцы», — канстатаваў Кірыл Руды.

Падчас апытання, паведаміў памочнік прэзідэнта, у беларусаў цікавіліся таксама, у якіх інтэграцыйных аб’яднаннях варта ўдзельнічаць краіне. «30% падтрымліваюць членства краіны ў Еўразійскім эканамічным саюзе, 20% выступаюць за нейтралітэт, 10% — за членства Беларусі ў Еўрасаюзе», — канстатаваў Кірыл Руды.

Паводле яго слоў, асноўныя перавагі Беларусі ад удзелу ў Еўразійскім эканамічным саюзе беларусы бачаць у тым, што гэтае інтэграцыйнае аб’яднанне забяспечвае рынак збыту для беларускіх тавараў, фінансавую дапамогу з боку Расіі, атрыманне танных энерганосьбітаў.

«У якасці пагроз удзельнікі апытання назвалі адток кваліфікаваных кадраў у Расію, зніжэнне канкурэнтаздольнасці тавараў, павышэнне мытаў», — сказаў Кірыл Руды. Разам з тым, дадаў ён, 75% падтрымліваюць сацыяльна-эканамічную інтэграцыю з Расіяй і толькі 9,7% апытаных выказаліся супраць.

**Паводле БелаПАН**

## Віцэ-прэм’ер Тозік: Гэта будзе жахліва, калі мы страцім мову

«Гэта будзе жахліва, калі мы страцім мову. Чым мы тады будзем адрозніваецца ад нашых суседзяў? Як гэта разумець, калі ў нас гісторыю і геаграфію Беларусі большасць вывучае па-руску? Грамадзянін Беларусі абавязаны валодаць дзвюма дзяржаўнымі мовамі», — падкрэсліў віцэ-прэм’ер Анатоль Тозік у чацвер на пасяджэнні рабочай групы, створанай для аналізу сістэмы адукацыі, якое прайшло ў Барысаве.

Калі «матчына мова» сыдзе са школы — памрэ нацыя, упэўнены члены рабочай групы. На гэтае пытанне ўжо не раз звяртаў увагу і кіраўнік дзяржавы, адзначаецца ў паведамленні дзяржаўнага агенцтва БелТА.

Члены камісіі таксама прапануюць прыбраць з назвы школ ўказанне на канкрэтную мову навучання і ўвесці абавязковы іспыт па дзвюх дзяржаўных мовах за курс сярэдняй школы (цяпер навучэнцы здаюць такі іспыт на выбар).

**СГ; паводле БелТА**

## Някляеў Лукашэнку і Тозіку пра мову: Дзе вы былі раней?

Парад патрыётаў...

Амаль дваццаць год таму, пасля рэферэндуму 1995 года, праз які Лукашэнка адмяніў нацыянальную мову, сімволіку, гісторыю, я сказаў яму, што тым самым ён адмяніў, па сутнасці, беларускую дзяржаўнасць.

Ён ускіпеў: «Нічога я не адмяніў! Дайце час — і ўсё ў вас будзе!..» Ён так і сказаў: «У вас...» Не ў яго, бо яму яно нібыта без патрэбы.

Вось нарэшце, пасля паходу Пуціна на Украіну, якая трымаецца выключна на нацыянальным духу, спатрэбілася. І яму, і ягоным служкам, якія ўслед за ім, спачатку прэм’ер, за прэм’ерам віцэ-прэм’ер — у адзін голас: «Гэта будзе жахліва, калі мы страцім мову!» Аказваецца, не нямыя. І не глухія. Дык чаму не чулі, маўчалі, калі пра гэта казалі, крычалі так, што кроў ішла горлам, найлепшыя сыны нацыі! Быкаў, Караткевіч, Брыль, Барадулін, Бураўкін... Бо там, дзе Быкаў, — дух. А там, дзе Лукашэнка, — плоць.

Вось пра яе і клопат. Магчыма, не толькі пра яе. Можа быць. Нешта ж павінна цепліцца беларускае і ў тых, хто «белорус на русском языке». Як той жа Лукашэнка, які даводзіў мне, што руская мова — гэта насамрэч мова беларусаў і ён не збіраецца яе рускім аддаваць. Прынцыпова. Відаць, усё ж надышоў час паступіцца «прынцыпамі». Аддаць рускім належнае. Каб не аддаць сваё.

**Уладзімір Някляеў**

## Пяць нярускіх капеек, ці Пра карысць самаметамарфозы

**Працяг са старонкі 9.**

Бясстрашным змагаром за праўду, за ісціну. Дэміургам, крэаклам! Стваральнікам! І вось яно адвечнае галічаўскае: «Можешь выйти на площадь,// Смеешь выйти на площадь?!» — не дае спакою.

Як жыць з гэтым? Калі ты ведаеш, што сцуль гарохавы? Што рабіць? Калі ты хочаш быць чалавекам, які мяняе свет, але баішся атрымаць каваным ботам у хлябальнік? Калі ты баішся страціць добрую працу? Лаяльнасць і павагу калег? Калі ты баішся, што праўда, будучы выказанай, разбурыць тваё жыццё?

Што рабіць таму, хто не ў стане жыць з гэтым дыскамфортам, ведаючы ўсё пра сябе сапраўднага?

А вось што. Трэба не пераконваць свет у сваёй правасце. Трэба пераканаць сябе ў тым, што свет правы. Што правы моцны. Што ў дадзенай сітуацыі праўда на баку сілы і слабы адграбае таму, што ён фашысцкая гадзіна. Як тут не ўзгадаць Оруэла?

«Боль хлынуў у цела. Стрэлка, пэўна, падскочыла да сямідзесяці — сямідзесяці пяці. На гэты раз Уінстан заплюшчыў вочы. Ён ведаў, што пальцы зноў перад ім і іх зноў чатыры. Думаў ён толькі аб адным — як выжыць, дачакацца канца пакут. Ён ужо не заўважаў, крычыць ён ці не. Боль ізноў злёгку сціх. Ён расплюшчыў вочы. О’Браен адводзіў рычажок.

— Дык колькі пальцаў, Уінстан?

— Чатыры. Я думаю, чатыры. Я ўбачу пяць, калі змагу. Я паспрабую ўбачыць пяць.

— А што б ты хацеў — сапраўды ўбачыць пяць пальцаў ці запэўніць мяне, што бачыш іх?

— Сапраўды ўбачыць».

А калі цябе не катуюць? Калі проста прапануюць быць у гурце прыемных ветлівых людзей, то што?

Трэба проста прайсці простую працэдуру, я называю яе «самаметамарфозай». Змяніць сябе згодна з патрабаваннямі асяродку.

І вось чалавек з этычнай пазіцыяй пачынае ўглядацца пільна-пільна, напрыклад, каб разгледзець фашыста, жыдабандэраўца, каб убачыць 5 пальцаў замест чатырох. Каб усё неяк склалася ў адну карціну, дзе ты на баку правых, дзе ты не сцыкло, дзе за вамі сіла, а вы разам супраць фашыстаў. Партызаны-партызаны...

Чалавек шукае бандэраўцаў. Фашыстаў. Але не бачыць, бо пакуль усё яшчэ не самаметамарфіраваўся. Ён усё яшчэ дурное няшчаснае сцыкло. Тады чалавеку прыходзіць выратавальная ідэя, падказаная тымі, хто дасягнуў гармоніі. «Аб’ектыўнасць»! О! Гэта салодкае слова. Гэты бальсан на раны, супакаенне і ключ любові да сябе. Аб’ектыўнасць.

Аб’ектыўна — гэта калі мы прызнаем для пачатку неідэальнасць любога боку.

Расія не ідэальная. О, так! Вайна, рускія маршы, алкагалізм, наркаманія, духоўныя скрэпы, нязменнасць улады, фашызм у хрэстаматыйным выглядзе, бяспраўе, галеча. Усё так. Але! Паглядзіце на Украіну! Ці ёсць там карупцыянеры? Ёсць! Ці пакутуюць падчас вайны невінаватыя? Канечне! Паміраюць! Сотні! Якая ўдача! Ці бываюць выпадкі супрацьпраўных дзеянняў салдатаў АТА падчас рэйдаў? О, так! На шчасце — бываюць! А каштоўнасці? Ну гэтыя, еўрапейскія каштоўнасці! Ці няма ў іхных спляценнях глупстваў і казусаў? А ці няма прыкладаў несправядлівасці там, у краінах чыстагану? Так! Алілуя! Слава і хвала! Як шмат такіх прыкладаў можна знайсці ў час глабальных інфармацыйных камунікацыяў! Так што ж цяпер?

Выходзіць, што ўсе небязгрэшныя? А значыць? Значыць, усе няправыя? Дык значыць, што? Значыць, гэтыя ў балаклавах пяюць частушкі... мацерныя частушкі, пакуль гінуць людзі, на вайне! Якая подласць з іх боку і якая ўдача для мяне! Якая палёгка.

А я?! А я што? Я не сцуль, госпадзі! Я больш не гарохавы сцуль! Я цяпер аб’-ек-тыў-ны! І усіх буду вучыць аб’ектыўнасці. Я буду вучыць усіх думаць, бо гэта цяжка.

Чалавек, які заканчвае працэдуру самаметамарфозы, не пазбаўляецца ніякіх іншых чалавечых якасцяў. Ён, дапусцім, будзе вельмі любіць беларускую мову ці абаранкі, калі да гэтага іх любіў.

Хаця, калі асяродак вырашыць, што беларуская мова — мова фашыстаў, а бублікі — сіяніцкі сімвал, то разлюбіць іх будзе не так цяжка, трэба проста паглядзець на іх пад правільным вуглом. З другога разу яно заўсёды лягчэй.

І вось ты ўжо любы самому Прылепіну. А вось цябе выдзяляе з усіх іншых такая маральная ватэрлінія, як Дзіянаў. Гэта не нагода насцеражыцца. Гэта нармальна. І вось Расія — не набрынялая ад крыві балэба, якая раскачваецца над сусветнай мапай, як метраном, вяшчаючы з вышыні галоўкі голасам Прылепіна/Праханава аб тым, як трэба суседзям свае Радзімы любіць. Гэта цытадэль духоўнасці, нелюбоўю да якой можна дэманстраваць толькі ўласнае ўбоства. Трэба толькі пастарацца паглядзець на яе пад верным вуглом, і Расія заззяе казачна і неверагодна загучыць.

Ах, як можна разгуляцца тады, калі самаметамарфоза закончана і вочы бачаць роўна тое, што зручна бачыць! Жыды вінаватыя ў Асвенціме, хахлы — у страце Крыма і вайне з Раісай, насатыя — у тым жа, толькі ў профіль, бульбашы — у дыктатуры і страце мовы. І кожны раз гэта (што самае прыемнае) можна казаць з апломбам, «ім», зверху ўніз.

Трэба толькі пераканаць сябе. Адзін разок. І ўсё. І ты набываеш права з клёкатам, гартанна пісаць пра зверствы бандэраўцаў у Адэсе, пра крывавага карупцыянера Парашэнку, пра эйфарыю майданутых. Цэлы свет ты можаш узважыць і асудзіць разам і пафрагментна. Але там, у глыбіні ўсёй тэарэтычнай базы, якую чалавек падвёў пад сябе для таго, каб не прызнавацца сабе ў тым, што ён сцуль, — ёсць адна бясспрэчная ісціна: Пуцін — х*йло. Ла-ла-ла-ла-ла-ла-ла-ла.

**Стась Карпаў**

З'явілася інтэрнэт-крама Symbal.by, што спецыялізуецца на таварах у нацыянальным стылі.

# Вось Symbal твой

Моладзь прыдумала новае слова: «вышымайка». Гэта майка з нанесеным на яе арнаментам, як на вышыванцы. Вышываная кашуля каштуе дорага, на кожны дзень не накупляешся. А майкі танныя. А ўсё адно прыгожа!

У Беларусі ўсё больш людзей лічаць справай гонару мець у сваім гардэробе ці інтэр'еры рэчы з нацыянальным каларытам. З'явілася нават інтэрнэт-крама symbal.by, што спецыялізуецца на нацыянальных таварах.

У яе асартыменце ёсць як хардлінейка, з «Пагонямі», так і софтстыль: з нацыянальным арнаментам.

**Чорная мужчынская майка**, зробленая ў стылістыцы традыцыйнай беларускай вышыванкі, са 100% бавоўны каштуе 150 тыс. Малюнак на ёй наносіцца пры дапамозе шаўкаграфіі. Дызайн саколкі прыдумаў Франак Вячорка.

**Завушніцы ручной работы** можна набыць за 100 тысяч.

**Тканы пояс ручной работы** каштуе 120 тысяч.

**Вокладкі на дакументы** ў нацыянальным стылі — ад 150 тысяч.

**Symbal.by** з задавальненнем прыме на продаж любыя вырабы ад народных майстроў і прадпрыемстваў любой формы ўласнасці.

А назва — узгадваеце? — адсылае да класічнага санета Максіма Багдановіча «Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі...» «Вось сымбаль твой, забыты краю родны,// Зварушаны нарэшце дух народны,// Я веру, бясплодна не засьне...» Так гэта гучала ў арыгінале, класічным правапісам, у якім слова «сімвал» пісалася як «сымбаль».

Краму стварыў 27-гадовы выхадзец з Брэста Павал Белавус — той самы, які раней стварыў «Арт-сядзібу».

На сайце прадаецца шмат чаго: ад упрыгажэнняў да вопраткі.

«Калі чалавек нешта атрымлівае за так, то так да гэтага і ставіцца. А калі купляе, то беражэ», — кажа Павал Белавус.

Крама сабрала на продаж тавары розных вытворцаў і майстроў у адным месцы.

Усё зробленае ў Беларусі, а таму і каштуе, вядома, трохі даражэй, чым кітайскае.

На сёння найбольшы попыт ідзе на вышымайкі, кажа Белавус. Іх прадалі больш за 1500 штук. Рэкардсменам стаў «Прыорбанк», які набыў адразу 40 вышымаек.

**Вольга Гарапучык**

Фотафакт



**Мінскі маркетолаг Аляксандр аздобіў свой «Фальксваген» нацыянальным арнаментам.**

# Ранак з беларускамоўным афіцыянтам у «Штоле»

У мінскай піраговай-кавярні «Штоле», той, што ля парку Горкага, працуе беларускамоўны афіцыянт.

Калі я зайшла туды сонечным восеньскім ранкам, афіцыянтаў аказалася двое, абодвум мужчынам далёка за 30. Які з іх той, што мне патрэбны? А можа быць, сёння ўвогуле не яго зьмена. Але я трапіла! «Які пірог жадаеце? Гарбату чорную, зялёную, зёлкавую?» — запытаўся мужчына і так прыемна ўсміхнуўся. Я вырашыла не губляць часу і пагутарыць з ім, пакуль кліентаў было няшмат.

Яго завуць Сяргей Сачыўка, ён высокі, падцягнуты, з яскравымі вачыма і прыемнай усмешкай. Жанаты, дарэчы, мае дачку. Пачаў сваю працу ў «Штоле» з тых часоў, як яны толькі пачалі з'яўляцца ў Мінску.



**Сяргею Сачыўку часта дзякуюць за мову.**

— А вы даўно беларускамоўны? — спыталася я.

— Ды не, стаж мой — адзін год толькі.

— Адзін год? Але ўражанне такое, што вы гаворыце пабеларуску ўсё жыццё. Што ж вас падштурхнула?

— Усяго патрошку. Цікавасць да мовы з'явілася даўно. Калі прыйшоў з арміі, адчуў страшную прагу да літаратуры і пачаў чытаць усё, што траплялася ў рукі. У 90-я шоргаўся па кнігарнях і набываў беларускія кнігі. Набыў нават слоўнік, каб перакладаць ды чытаць. Пераломным момантам стала кніга Міколы Ермаловіча, пасля якой мне стала не сорамна быць беларусам.

— А як людзі ставяцца да вашай беларускамоўнасці?

— Вельмі пазітыўна. Я здзіўляюся нават. Часта дзякуюць за мову.

— Мова змяніла вас?

— Я пачаў адчуваць сябе часткай чагосьці вялікага і вартага.

Працадаўца падтрымлівае Сяргея. Дома сям'я спачатку здзівілася такому рашэнню: не кожны дзень чалавек прачынаецца, а з яго вуснаў ліецца ўжо іншая мова. Але цяпер яго дачка-школьніца рыхтуецца здаваць ЦТ пабеларуску.

— А цяжка было перайсці на мову? Я сама першыя некалькі месяцаў амаль не размаўляла ні з кім, так складана было падабраць словы.

— У мяне тое самае было. Адчуваў сябе тармазнутым. Галоўнае, чытаць у гэты час шмат і мець сілы не адмовіцца ад задумы. І, напэўна, усе складанасці забываеш, калі бачыш, як удзячна на цябе глядзяць людзі і як ім гэтага не хапае.

Пакуль гутарылі, ля кас сабраўся натоўп, Сяргей быў вымушаны ісці на дапамогу. Па ўсёй кавярні разносілася прыгожая беларуская мова.

**ВГ**

# «Маманяты» запрашаюць далучацца

У Мінску адкрыліся беларускамоўныя заняткі для дзяцей 1,5—6 гадоў.

Вікторыя Язвінская, матуля двухгадовага Рычарда, якога яна пяшчотна называе Рысікам, стварыла на базе танцавальна-спартовай студыі «Дзеткі+» дзве беларускамоўныя групы для дзетак рознага веку. Гэтай восенню пачаліся заняткі ў групе «Маманяты» (для дзяцей 1,5—3 гадоў з бацькамі) і «Тэатр рухаў» (для дзетак 3—6 гадоў).

«Маманяты» — гэта танцавальна-спартовыя заняткі з элементамі творчасці і прыкладной дзейнасці. Чытаць ці лічыць трохгадовых не вучаць, скіраванасць ідзе на фізічнае развіццё дзіцяці. Бо чым больш малое рухаецца ў такім веку, тым лепей яно развіваецца. Плюс творчы складнік: праца на дробную і буйную маторыку.

«Тэатр рухаў» — спартова-тэатральныя заняткі, скіраваныя на развіццё гаворкі ў сувязі з рухам, лагарытмікі. На занятках дзетак чакаюць чыстагаворкі і мімічная гімнастыка, гімнастычныя комплексы і практыкаванні, дыхальнаспеўная гімнастыка, казачныя гісторыі і хатнія заданні.

Памяшканне студыі, дзе займаюцца «Маманяты», знаходзіцца ў Малінаўцы. Але бацькі возяць сюды дзетак нават з-за горада.

Заняткі праходзяць у малых групах — не больш за 5 чалавек «Маманяты» і 10 чалавек «Тэатр рухаў». Калі мы прыйшлі, усе дзеткі ўжо былі на месцы і разам з бацькамі ды выкладчыцай Касяй Глухоўскай распачалі свае «марскія прыгоды».



Дзеткі зусім маленькія, працаваць з імі складана, але яны з радасцю пускаюцца ў гульні ды практыкаванні, якія ім прапаноўваюць. Прапанавалі «марскія прыгоды» — і дзеткі змагаліся з піратамі, рабілі пацеркі, як сапраўдныя маракі праходзілі розныя выпрабаванні.

А мове як такой на курсах не вучаць. «Мэта заняткаў — гарманічнае развіццё дзіцяці, занурэнне яго ў моўнае асяроддзе праз гульню», — кажа Вікторыя. Але нават расейскамоўныя дзеткі пасля заняткаў пачынаюць дома ўжываць беларускія словы.

**ВГ**

**Каб запісацца на заняткі,** трэба званіць на нумар: (29) 189-81-08.

## ФУТБОЛ

### «Дынама» — «Генгам»




**23 кастрычніка на «Барысаў-Арэне»** пройдзе матч групавога этапа Лігі Еўропы. Мінскае «Дынама» будзе прымаць французскі «Генгам». Пачатак а 20.

## ХАКЕЙ

### Далёкі Усход у Мінску

**Працягваецца рэгулярны чэмпіянат КХЛ.** У канцы кастрычніка Мінск наведаюць дзве каманды з Далёкага Усходу Расіі. 27-га «зубры» прымаюць хабараўскі «Амур». 29-га — «Адмірал» з Уладзівастока. Абедзве гульні пройдуць на «Мінск-Арэне». Пачатак а 19.

## БАСКЕТБОЛ

### «Цмокі»—ВЭФ

25 кастрычніка ў рамках чэмпіянату ВТБ мінскія «Цмокі» прымаюць латвійскі ВЭФ. Пачатак а 17 на «Мінск-Арэне».

## КАНЦЭРТЫ

### Ili-Ili

**24 кастрычніка а 19 у прасторы «ДК» (Талбухіна, 4)** грае гурт Ili-Ili.

### Recha

**26 кастрычніка гурт Recha дае канцэрт у паб-клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16).** Пачатак а 19.

### IQ 48

**26 кастрычніка а 21 у TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 9)** выступіць гурт IQ 48.

### «Бачу ўпершыню»

**30 кастрычніка ў прасторы «ДК» (Талбухіна, 4)** пройдзе сумесны канцэрт музыкі Андрэя Сянькевіча і гурту «Бачу ўпершыню». Пачатак а 19.

### «Усялякія па-рознаму»

**30 кастрычніка ў Shaka Bar (Скрыганава, 6А)** пройдзе фэст «Усялякія па-рознаму» з удзелам гуртоў «Агатка», «Ліцвіны», «Князь Мышкін» і Міхаіла Кірычэнкі. Пачатак а 19.

## ІМПРЭЗЫ

### Памяці Анатоля Сыса

**Сёлета Анатолю Сысу** споўнілася б 55 гадоў, і 25 кастрычніка на яго радзіме ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці адбудзецца традыцыйная літаратурна-музычная імпрэза, прысвечаная памяці паэта. Удзел возьмуць: Славамір Адамовіч, Уладзімер Арлоў, Анатоль Бароўскі, Зміцер Вішнёў, Анатоль Вярцінскі, Сяргей Дубавец, Галіна Дубянецкая, Алесь Камоцкі і Кася Камоцкая, Генадзь Лапацін, Серж Мінскевіч, Алесь Пашкевіч, Барыс Пятровіч, Ларыса Раманава, Людка Сільнова, Усевалад Сцебурака, Сяржук Сыс, Андрэй Хадановіч і іншыя вядомыя беларускія паэты і барды.









### «Святло вязынкі»

**Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы (вул.Купалы,4)** запрашае на прэзентацыю новага аўтарскага фотапраекта Валерыя Вядрэнкі «Святло Вязынкі». Гэта трэці сумесны праект музея і мастака. Экспазіцыя з 60 мастацкіх фатаграфій адлюстроўвае колазварот прыроды ў адной з культавых мясцін Беларусі — Вязынцы, малой радзіме Янкі Купалы. Выстава працягнецца да 15 лістапада.

### Кінемо — фестываль нямога кіно і музыкі

**У кінатэатры «Масква» (Пераможцаў, 13)** ладзяць паказы нямога кіно пад музыку сучасных беларускіх кампазітараў.
24 кастрычніка можна пабачыць фільм «Мая бабуля» (СССР, 1929, рэжысёр — Катэ Мікаберыдзэ), а 31 кастрычніка — фільм Альфрэда Хічкока «Жыхар: гісторыя лонданскага туману» (Вялікабрытанія, 1927). Паказы пачынаюцца а 19.

## ТЭАТР

### 23 кастрычніка

**Балет** — Анюта
**Беларускай драматургіі** — Фінт-Круазэ
**Купалаўскі** — Тата
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Юнага гледача** — Аднакласнікі

### 24 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Адэль
**Купалаўскі** — Тата
**Лялек** — Тарцюф
**Опера** — Травіята
**Юнага гледача** — Аднакласнікі

### 25 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Адамавы жарты, Два чароўныя парасоны
**Купалаўскі** — Ноч на Каляды
**Лялек** — Кот у ботах
**Опера** — Аіда
**Юнага гледача** — Сакрэт сапраўднага сяброўства

### 26 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Купалаўскі** — Ноч на Каляды
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Юнага гледача** — Тры парсючкі

### 27 кастрычніка

**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху

### 28 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Раскіданае гняздо
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Юнага гледача** — Прыгоды Бібігона

### 29 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Лялек** — Марынка-крапіўніца
**Юнага гледача** — Пані Завіруха

## ВЫСТАВЫ

### Беларусь у Першай сусветнай вайне

**Маштабная экспазіцыя ў Нацыянальным гістарычным музеі (Маркса, 12)** складаецца з шасці тэматычных раздзелаў, аб'яднаных агульнай ідэяй. Экспазіцыя знаёміць з жыццём даваеннай Беларусі, ваеннымі дзеяннямі, якія праходзілі на тэрыторыі краіны, бежанствам, франтавым побытам, завяршальным этапам вайны. Асобны раздзел экспазіцыі прысвечаны ўшанаванню нашымі сучаснікамі памяці ахвяр Першай сусветнай вайны.

### Albom.pl

Да 29 кастрычніка ў творчай прасторы ЦЭХ (Незалежнасці, 58/6) можна пабачыць вынікі археалагічна-фатаграфічнай экспедыцыі на польска-беларускае памежжа «Albom.pl». Куратары выставы распавялі, як узнікла ідэя выставы: «Гэта была археалагічная экспедыцыя, таму мы «капалі». Спачатку ў архівах і інтэрнэце, а потым у шуфлядах, старых скрынях з паперамі, альбомах, якія амаль развальваліся ў руках, тых людзей, якія мелі жаданне падзяліцца з намі гісторыяй сваёй сям'і».

## КІНО

### 3 жыцця вар'ятаў

Шпацыр сярод магіл
**Жанр:** дэтэктыў, трылер, драма
**Рэжысёр:** Скот Фрэнк
У ролях: Ліам Нісан, Дэн Сцівенс, Дэвід Харбар, Бойд Холбрук, Аўлавюр Дары Аўлаўсан, Морыс Комт, Патрык МакДэйн, Браян Брэдлі
ЗША, 114 хв.
Паліцэйскі ў адстаўцы, які восем гадоў таму кінуў піць, а цяпер заняты прыватным вышукам, Мэт Скадэр увязваецца ў справу аб страшным забойстве жонкі наркадылера. Той наймае Скадэра, каб знайсці забойцаў і пакараць іх уласнаручна. Але хутка дэтэктыў разумее, што мае справу з хворымі на галаву злачынцамі, якія здзейснілі не адно забойства з расчляненнем ахвяраў і не збіраюцца спыняцца. Стужка заснаваная на аднайменнай кнізе амерыканскага аўтара вострасюжэтных дэтэктываў Лоўрэнса Блока, якая з'яўляецца заключнай часткай серыі кніг пра Мэта Скадэра. У экранізацыі дэтэктыў раскрывае серыю асабліва жорсткіх забойстваў, здзейсненых двума вар'ятамі. Фільм мае няспешны тэмп, надзвычай драматычны сюжэт разварочваецца пакрысе і адкрывае ўсё больш жорсткія дэталі.

**Настасся Уласава**



# «Краты» доўга не жывуць

Піша гісторык **Ніна Стужынская**.

Цяпер ужо не згадаю, хто падказаў мне, што на вуліцы Кнорына ў Мінску жыве Ніна Лістапад, дачка аднаго з арганізатараў Слуцкага паўстання Юркі Лістапада. Здзіўленне маё не мела межаў. Я ведала, што яе маці, жонка Лістапада Марыя Стагановіч, таксама жывая. Як змагла выжыць сям'я «ворага народа», расстралянага ў 1938-м?

Сустрэчы і размовы са спадарыняй Нінай пры канцы 90-х прыйшлі на памяць, калі, праглядаючы паперы ў архіве фонду Мінскай турмы, я трапіла на так званую справу 14 1921 г. Дакументы — танюткія сшыткі — мелі прыпіску, што «справа 14» адносіцца да аперацыі «Крот» і паперы накіроўваюцца следчаму Шульману. У спісе ўдзельнікаў выкрытай чэкістамі контррэвалюцыйнай арганізацыі фігуравала імя Людмілы Стагановіч.

Настаўніцы, сёстры Марыя і Людміла, напярэдадні Слуцкага паўстання, увосень 1920 г., былі актывісткамі партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў і культурна-асветніцкага маладзёжнага гуртка «Зарніца» ў вёсцы Старыца на Случчыне.

### «Крот» на беларускай сцэне

Рыжская мірная дамова 1921 года афіцыйна паклала канец савецкай-польскай вайне. Аднак узаемная канфрантацыя і шпіёнска-выведніцкая дзейнасць з абодвух бакоў працягвалася. Асноўныя акцыі ВЧК-ОГПУ былі скіраваныя супраць замежных антысавецкіх цэнтраў і іх філіяў на савецкай тэрыторыі. Гэта былі зусім не «Союзы меча і орала», што высмейвалі Ільф і Пятроў, а рэальныя баявыя арганізацыі.

Найлепшым спосабам трымаць іх пад кантролем, да якога дадумаліся на Лубянцы, было укараненне ў структуры і нават у кіраўніцтва сваіх агентаў кшталту «Народнага саюза абароны радзімы і свабоды» (НСАРС) на чале з Барысам Савінкавым. Былы эсэр-тэрарыст змог залучыць да падрыхтоўкі агульнага антысавецкага паўстання і беларускія нацыянальныя арганізацыі — Беларускі палітычны камітэт і баевікоў «Зялёнага Дуба».

Слабае месца ў канструкцыі НСАРС чэкісты намацалі ў Гомелі, заўважыўшы частыя сустрэчы былых царскіх афіцэраў. Падчас следства згоду на супрацоўніцтва з чэкістамі далі некалькі актывістаў мясцовай філіі савінкаўскага Саюза. Для кожнага следчыя знайшлі «жалезныя» аргументы. Так, камандзір запаснага батальёна Шчэрба не пажадаў, каб яго любоўная сувязь з жонкай вайсковага доктара Майсеева, калегі па антысавецкім падполлі, стала вядомай мужу. Шчэрба даў патрэбныя паказанні па справе. Ваенрука Максімава, таксама аднаго з кіраўнікоў Камітэта, арыштавалі на кватэры маці сувязнога Іосіфа Зянкевіча. Давераная асоба Савінкава, Зянкевіч, трымаў


Швагерка Юркі Лістапада Людміла Стагановіч з сям'ёй. Масква, 1931.

сувязь паміж аддзяленнямі Саюза ў Віцебскай, Гомельскай, Мінскай губернях, ён па сутнасці перадаў каналы сувязі ў рукі спецслужб. Перавербаваўшы агентаў і кур'ераў, якім давяралі ў варшаўскім цэнтры НСАРС, чэкісты атрымалі магчымасці для маніпуляцый.

А пасля чэкістам удалося перавербаваць Эдуарда Аперпута, кіраўніка Заходняга абласнога камітэта НСАРС. Авантурыст і правакатар, ён меў тузін мянушак (Касаткін, Стаўніц, Селянінаў...). Сваімі паказаннямі Аперпут даў ключ да ліквідацыі ўсіх савінкаўскіх арганізацый у межах Заходняга фронту.

### «Выдатная ігра» мінскіх чэкістаў

Каб разграміць замежныя антысавецкія цэнтры, расійскія спецслужбы зладзілі ў першай палове 1920-х аперацыі «Трэст» і «Сіндыкат-2» — «паставілі» шырокамаштабную шпіёнскую драму, кульмінацыяй якой стаў арышт у 1924 г. у Мінску самога Савінкава. Большая частка спектакля адбылася на беларускай сцэне. Удзел беларусаў у гэтай містыфікацыі мала каму вядомы, між тым 60 тамоў следчай справы «Крот», прэлюдыі «Трэсту», хаваюць тысячы трагічных гісторый. Адгалоскі знайшліся і ў мінскіх архівах.

Мінскія чэкісты выдатна сыгралі ролі ў аперацыі, распісаныя рэжысёрамі з Лубянкі. Кіраўнік асобага аддзела пры Беларускай ЧК Станіслаў Глінскі сыграў ролю кіраўніка падпольнай арганізацыі «Ліберальных дэмакратаў», сустракаўся з генералам Булак-Балаховічам у раёне Слуцка і абмяркоўваў планы захопу Мінска. Латыша В. Бангу, начальніка аддзела па барацьбе з бандытызмам мінскага ЧК, агенты «Зялёнага Дуба» лічылі сваім чалавекам і інфарматарам. За савінкаўца і адказнага за памежны пераход у Заслаўі выдаваў сябе чэкіст Ян Крыкман. (Раней той Крыкман з легендай пакрыўджанага саветамі чырвонага камандзіра далучыўся да атрада партызана Моніча з мэтай яго забіць.) Актыўнымі гульцамі «Трэста» і «Сіндыката» былі мінскія чэкісцкія кіраўнікі Ф. Мядзведзь ды І. Апанскі.

### Шпіёны ў ваенкамаце

Пачыналася шпіёнская гісторыя ў бурлівым 1921-м. Лясная партызанская вайна суправаджалася стварэннем агентурнай сеткі ў гарадах і мястэчках. Шпіёны, дыверсанты, тэрарысты, кантрабандысты запаланілі тэрыторыі ўздоўж новай дзяржаўнай мяжы.

Слуцк і пасля паўстання 1920-га не заціхаў. Былыя паўстанцы далучаліся да антысавецкіх праектаў.

У Слуцку (як і паўсюдна па савецкай Беларусі) цэнтрам антыбальшавіцкай дзейнасці быў... ваенкамат. Былыя царскія афіцэры — ваенрук Ян Горскі, начальнік мабілізацыйнага аддзела Георгій Будаеў, супрацоўнікі Амяльян Крыцкі і Адрыян Скрыпка — склалі мясцовы актыў НСАРС. А ўзначальваў антысавецкую структуру Кастусь Кецка, у 1921 камендант горада. Яго імя ў гісторыі Слуцкага збройнага чыну вядомае ў сувязі з гучнаю справаю аб «здрадзе» камандзіра Слуцкага палка Чайкі. Менавіта Кецку, свайму сябру, Павал Чайка напісаў ліст. Змест застаўся невядомым, але прыхільнікі Булак-Балаховіча, якія бачылі на месцы камандзіра іншага чалавека, звінавацілі Чайку ў выдачы нейкіх сакрэтаў. Чайку арыштавалі, ён уцёк на савецкі бок, і там у пачатку студзеня 1921 быў расстраляны.

Кецка «засвяціўся» ў «справе 14», заведзенай на слуцкіх інтэлігентаў, сваякоў удзельнікаў паўстання. Таксама слуцкі камендант праходзіў па «справе 48», якая тычылася эсэраў, вайскоўцаў і іх «укрывальнікаў». Кецку інкрымінавалі кіраўніцтва групай, якая яднала людзей з дзяржаўных устаноў ды збірала інфармацыю аб дыслакацыі, колькасці, узбраенні аддзелаў Чырвонай Арміі і перадавала на польскі бок копіі вайсковых загадаў. Пячаткай ваенкамата завяраліся пропускі праз мяжу і іншыя дакументы для «сваіх».

Арышты па справах «14» і «48» адбыліся ў жніўні 1921. Спіс абвінавачаных узначальваў 28-гадовы касір Слуцкага фінаддзела Канстанцін Бараноўскі, старэйшы брат аднаго з арганізатараў паўстання, эсэра Андрэя Бараноўскага. Ёсць у спісе і імёны Лідзіі і Якуба Тэраўскіх. Магчыма, увага да іх была наступствам арышту ў Мінску кіраўніка нацыянальнага беларускага хора Уладзіміра Тэраўскага. Яму далі пяць год катаржнай Смаленскай турмы за сувязь з агентам «Зялёнага Дуба» Ганнай Доўгерт.

Арыштаваны былі ўсе служачыя, нават былыя, Слуцкага ваенкамата разам са сваякамі — Казімір Асвяцімскі, Алесь Верабей і яго брат Фёдар, Понтус.

Чэкісты «зачышчалі» ад «контррэвалюцыянераў» дзяржаўныя установы горада. Розныя тэрміны зняволення атрымалі Пётра Багдановіч, Васіль Цішкевіч, Лявон Вячорка і іншыя актыўныя дзеячы партыі эсэраў.

Выявілі шмат жанчын-шпіёнак. Па «справе14» праходзілі Вольга Дыла, Людміла Стагановіч, Ефрасіння Рэўт. Кецка апазнаў па фота знаёмую па тых часах разведчыцу Ганну Доўгерт як Ганну Тамашэўскую. Ёй і жонцы Тэраўскага Надзеі камендант даваў пропускі для пераходу мяжы.

### Гвалтаўнікі з ЧК

Людміла Стагановіч, як успаміналa яе пляменніца Ніна Лістапад, з ЧК выйшла абсалютна іншым чалавекам. Глыбокая псіхалагічная траўма (ці толькі псіхалагічная?) кардынальна змяніла яе жыццёвыя погляды і паводзіны.

Следчы, да якога трапіла дзяўчына, дамагаўся яе сэксуальна, даючы зразумець, што будзе ўдзячны за прыхільнасць. Чым скончылася гэтая гісторыя — невядома. Людмілу пратрымалі ў ЧК зусім нядоўга, яе нават не пераводзілі ў турму. Апынуўшыся на волі, яна парвала сувязі з эсэрамі і ўсё жыццё заставалася палымянай сталіністкай...

Метады чэкістаў таямніцай не былі. У верасні 1921 на ўпаўнаважаных ЧК Шульмана і Кетлінга завялі справу за збіццё арыштаваных у Слуцку. Але сведчанняў, што іх пакаралі, няма. У творах Салжаніцына і Гуля згадваецца «крывавы камендант» Тіфліскай ДПУ, какаініст і сэксуальны вычварэнец Шульман. Ці не той самы, які пачынаў кар'еру ў Беларусі?

Жанчыны маглі трапіць і ў рукі другога маньяка ў форме. Нехта Бярозкін, следчы асобага памежнага аддзялення №4 (Слуцкага) меў звычку раздзяваць жанчын дагала быццам для вобшуку, а потым гвалціць. Пасля таго, як адна з арыштаваных пад час допыту ў Слуцкім ДОПРы («Дом общественно-принудительных работ») паспрабавала выкінуцца з акна і нарабіла лямянту на ўвесь горад, пракурор павета мусіў завесці справу на Бярозкіна. Паводзіны гвалтаўніка прызналі «дыскрэдытуючымі вобраз чэкіста».

### Пасля арышту бацькі маці звар'яцела

Фігуранты спраў «14» і «48» у большасці атрымалі па два гады канцлагера. Падчас следства памёр ці быў закатаваны бацька камандзіра Слуцкага палка, капітана Антона Самусевіча. 68-гадовы Іван Гаўрылавіч трапіў у ЧК, бо хаваў у падвале свайго дома сына-шпіёна. Праз год і Антон Самусевіч быў забіты падчас трэцяй спробы ўцячы з Мінскай турмы шляхам падкопу.

Для 28-гадовага Кастуся Кецкі справа «з лічбамі» ў аперацыі «Крот» была толькі пачаткам у ланцугу арыштаў. Пастанова наркама ўнутраных спраў і пракурора СССР ад 25 мая 1938 г. пра расстрэл Кецкі К. Д. была выканана 7 ліпеня 1938. у Мінску. У заяве яго дачкі Ніны Вастокавай (люты 1968) з просьбаю рэабілітаваць бацьку гаворыцца, што напярэдадні арышту ў 1937 сям'я жыла па вуліцы Чапаева ў Мінску, бацька працаваў бухгалтарам у садоваагародным трэсце. Пасля арышту бацькі, піша Вастокава, маці ад перажытага страціла розум. Сястру забралі ў дзіцячы дом, сама яна апынулася ў сваякоў. Толькі ў 1967-м сёстры знайшлі адна адну. Дзе знайшоў апошні прытулак былы слуцкі камендант? Адказ відавочны: у Курапатах.

Слуцкі падпольны ланцуг браў пачатак у Нясвіжы. Арганізатары Слуцкай паўстанцкай брыгады афіцэры Ян Мацэлі, Антон Самусевіч, шарагоўцы Л. Міронч ык, Макрэцкі, Кудровіч, Ліхадзіеўскі склалі замежную групу пры Інфармацыйным Бюро (структура 2-га аддзела Польскага генштаба) у Нясвіжы. Але ні патранаж польскай выведкі, ні энергічныя высілкі случчакоў не прадухілілі паразы. Падпольныя арганізацыі ў памежжы гінулі адна за адной, не вытрымаўшы спаборніцтва з ЧК на таемным фронце.

Засланыя і перавербаваныя агенты — краты — практычна за год знішчылі каласальную па памерах і геаграфіі сетку «Народнага саюза абароны радзімы і свабоды». І гэта пры тым, што савінкаўская агентура прасачылася ў савецкія вайсковыя і выканаўчыя ўладныя ўстановы. Незадаволенае савецкай населніцтва шукала магчымасці працягнуць вайну з бальшавікамі і падтрымлівала любую антысавецкую ініцыятыву.

План агульнага паўстання з мэтаю захопу ўлады ў Беларусі ў жніўні 1921 мог быць рэальна ажыццявіцца, калі б не каласальныя страты ў сакрэтнай вайне.

### Падвойны агент Рэўт

Дык хто ж той «крот», які менавіта ў Слуцку здаў падполле? Ён шчыраваў не адзін, але адно імя можна назваць дакладна — Яўген Хведаравіч Рэўт. Малады слуцкі хлопец, 1899 года нараджэння, у 1920 г. ён добраахвотна паступіў на службу ў Гомельскі запасны полк РСЧА, увосень быў ужо дома ў Слуцку. Былы чырвонаармеец далучыўся да Слуцкай паўстанцкай брыгады, нават быў памочнікам начальніка контрвыведкі.

Рэўт спрыччыніўся да арышту Паўла Чайкі. Крыніцы сведчаць, што на пачатку 1921 ён быў асведамляльнікам дэфензівы. Аднача сова ён «выкарыстоўваецца ЧК у рабоце за мяжой».

Аднак у жніўні Рэўта арыштавалі разам з астатнімі па «справе 14». Затрыманая і яго сястра Ефрасіння, хутчэй за ўсё, як закладніца. Слуцкія чэкісты западозрылі ў ім падвойнага агента і этапавалі ў Мінск. Верасень 1921 г. быў багаты на затрыманні актывістаў антысавецкай апазіцыі ў Беларусі. На фоне чэкісцкіх перамог Рэўт накіроўваецца зноў «для далейшай работы ў распараджэнне Асобага Аддзела ЧКБ». Але зноў пайшло не так, як хацелі гаспадары. У кастрычніку арыштаваны зноў, фармулёўка цьмяная: «Не апраўдаў даверу». У лютым наступнага года Рэўта расстралялі ў Мінскай турме. «Краты» доўга не жывуць.

**Ніна Стужынская**

Гісторык. Вывучае беларускі антысавецкі супраціў між I і II сусветнымі войнамі. ст. Жыве ў в. Пятрышкі (Маладзечанскі раён).

# Два беларусы

Вінцэсь Мудроў. Апавяданне.

Пад самую раніцу — усё адно як хтосьці паклікаў — ён абудзіўся. Пад бокам працяжна, з сіпатым прысвістам, храпла жонка. Ён тузануў Ніну за плячо, тая замармытала, крутнулася на левы бок.

У свядомасці яшчэ луналі рэшткі сну. І, як заўсёды пасля цяжкога дня, прыснілася груша, што расла каля бацькавай хаты. Дзіўныя рэчы: столькі ўсяго надарылася ў жыцці, столькі краявідаў, столькі чалавечых твараў прамільгнула перад вачыма, а сонная памяць вяртае з нябыту ўсё тую ж пакарабачаную грушу з шурпатым стаўбуром і з абрыўкамі вяроўкі на суку: там калісьці віселі арэлі, на якіх ён, малое дзіця, любіў гушкацца...

Ішлі дзясятыя суткі вандроўкі дэлегацыі па Амерыцы. Учора давялося цэлы дзень правесці ў кукурузнай Аёве, у Пітсбург прыляцелі познім вечарам, а ў гатэль наогул убіліся а другой гадзіне ночы. «Як жа называецца гэта гасцініца?» — нарадзілася ў галаве недарэчная, як для такога часу, думка.

Усе гэтыя дні ён не адчуваў стомы, але ўчора, пабегаўшы па кукурузных палетках містара Гарста — знакамітага фермера, — адчуў, што дарэшты стаміўся. Ад той змогі сон зляцеў з павекаў і ў галаву лезла розная лухта.

«Ці то «Нах хаўз», ці то «Ком хераўс» — мружыў ён вочы на цёмную столь, спрабуючы згадаць неонавы надпіс на франтоне гасцініцы. Нарадзілася нават жаданне выйсці ў калідор і даведацца тую чортаву назву ў ахоўніка. Але што падумае ахова? Што Хрушч з'ехаў з глузду: сярод ночы выкульваецца ў калідор і пытаецца: «Дзе я?»

Закінуўшы рукі за голаў, ён зморана ўздыхнуў, зразумеўшы, што не засне да раніцы.

Мікіта памыўся пад цёплым дожджыкам, хвіліну адпачываў у мяккім фатэлі, а потым, нібыта згадаўшы нешта, падхапіўся, надзеў штаны і рушыў у суседні нумар. Зяць Аляксей, журналіст, ужо сядзеў за друкаркай і калаціў пальцамі па клавішах.

Мікіта паклаў руку на зяцеў плячук, Аляксей азірнуўся, задумаўся на хвіліну і зноўку заляпаў па клавішах — відаць, хацеў скончыць абзац.

Цесць насунуў на нос акуляры, зірнуў праз зяцеў плячук.

«Мы былі шчаслівыя, назіраючы, з якім непрыхаваным майстэрствам, — мільганулі ўваччу рухавыя літары, і карэтка падалася ўлева, — з якім шчырым перакананнем і верай у яго вялікасць рабочы клас прадстаўнік савецкага народа Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў казаў амерыканскаму народу і ўсяму свету аб вялікай, неадольнай сіле марксізма-ленінізма...»

Зяць, па гарачых слядах, пісаў кнігу пра візіт у ЗША. Ужо і назву прыдумаў: «Тварам да твару з Амерыкай». Напачатку Мікіта не надта ўхвальна паставіўся да ўсёй гэтай белетрыстыкі, але пачуўшы, што ў аўтарах будзе не толькі зяць, але і яшчэ тузін пісак, буркнуў: «Чорт з вамі, пішыце».



Вінцэсь Мудроў

Нар. 1953. Пісьменнік. Сябра Беларускага ПЭН-цэнтра, Саюза беларускіх пісьменнікаў і Таварыства вольных літаратараў. Жыве ў Наваполацку.



— Вось што, Лёша, зірні — што там сёння ў праграме, — выдыхнуў цесць, калі Лёша, патрымаўшы палец у паветры, паставіў кропку.

«Трэба будзе рукапіс прагледзець, а то, адчуваю, напіша абы-чаго. З культам асобы змагаемся, а тут Лёшка новы культ стварае. Цяпер ужо ўласнаму цесцю», — падумаў Мікіта, ляснуўшы шлейкамі па друзлым чэраве.

Аляксей выбег у калідор і неўзабаве вярнуўся, трымаючы ў руцэ аркуш цупкай паперы.

— Та-ак... Праграма на 24 верасня 1959. Горад Пітсбург, штат Пенсільванія... Адразу едзем у раён Хоўмстэд, на завод фірмы «Места-індастрыз». Потым вяртаемся ў гатэль...

— А як называецца? — перабіў цесць зяцеву хуткагаворку.

— Хто?

— Гасцініца, дзе мы зараз сядзім.

— «Карлтан-хаўз», — прамовіў зяць, аблізнуўшы сасмяглыя вусны. Учора ў Аёве давялося выпіць у кампаніі амерыканскіх журналістаў, таму сёння шчымела галава і сушыла ў роце.

— Ну што змоўк як мыла з'еўшы... Што там далей?

Аляксей выцер насоўкай пот з ілба.

— Далей вяртаемся ў «Карлтан-хаўз», сілкуемся і едзем у мясцовы ўніверсітэт. Там аглядаем кампус...

— Які яшчэ камбуз? — незадаволена буркнуў Мікіта.

— Кампус... студэнцкі гарадок.

— Ну... — яшчэ больш незадаволена азваўся цесць, падышоўшы да акна.

— Там нам даюць сняданак...

— Дык ужо ж падсілкуемся да таго часу.

— Гэта ўрачысты сняданак, на пяцьсот асобаў, з удзелам губернатара, мэра...

— Пэра і хера, — выдыхнуў Мікіта, але тут жа сумеўся, утаймаваў раздражненне, якое лезла вонкі.

— Стаміўся я, Лёша. Дзесяць дзён па Штатах матляемся, — Мікіта прытуліўся лобам да шыбы. — Ладна, ідзі, — махнуў рукой, але тут жа ўцяміў, што знаходзіцца ў зяцевым нумары і шаргатлівай хадой рушыў да дзвярэй.

У механічным цэху народу — як завязаць. Рабочыя залезлі на краны, на станкі і прэсы, цягнуць галовы, выглядаючы галоўнага савецкага камуніста, які паабяцаў пахаваць Амерыку.

Сярод гармідару і вэрхалу хтосьці выразна гарлае:

— Доброе утро!

Галоўны камуніст выглядае ў натоўпе таго, хто павіншаваў яго па-расейску.

— Вы рускі? — пытаецца Мікіта, ціснучы руку каржакаватаму, сярэдняга веку, мацаку. На мужчыну навюткія порткі і кашуля з кароткім рукавом. Мяркуючы па ўсім, гэта цэхавы майстар, ці як іх там называюць...

— Не, я амерыканец, але пад час вайны сустракаўся з вашымі людзьмі ў Мурманску, — паведамляе цэхавы майстар ужо на сваёй мове.

Майстар відочна хвалюецца — дастае з нагруднай кішэні цыгару, але, зразумеўшы, што паліць не да часу, працягвае яе галоўнаму камуністу. Натоўп аціхае, уражана глядзяць на госця — маўляў, хіба гэта падарунак, дый галоўны камуніст, падобна, не паліць, — але госць, не доўга думаючы, здымае з рукі свой гадзіннік, працягвае майстру.

— Буду насіць, а потым сыну свайму перадам, — уражана прамаўляе амерыканец.

Натоўп бязладна гамоніць, усе наўкол пнуцца паглядзець на гадзіннік, і майстар уздымае яго над галавой.

Непадалёку ад уваходу ў цэх стаіць шыхт чырвоных, з выгляду падобных на лядоўні шафаў.

— Гэта аўтаматы з газіроўкай, кока-колай і кавай, — запабежліва тлумачыць перакладчык, што дробненька тупае поруч.

— Аўтаматы, кажаш... — галоўны камуніст спыняецца ля шафаў, тыцкае пальцам на круглую блямбу з надпісам Coca-Cola.

Аўтамат поўніць папяровы кубачак, азываецца смаркатлівым зыкам.

— Я раней думаў, што гэтая кока-кола штосьці накшталт піва. Вып'еш пару бутэлек — і галава ідзе ходырам. А гэта проста газіроўка, — савецкі лідар прыклаўся вуснамі да папяровага кубачка.

— Ну як на смак, Мікіта Сяргеевіч? — пытаюцца з-за спіны.

— Задужа салодкая... і тхне аптэкай.

Ля цэхавых варот дарогу перакрывае людскі натоўп. Час падціскае і размаўляць з людзьмі ўжо не выпадае, але і тут сярод няўцямных воклікаў гучыць родная мова:

— Вітаем Вас!

Гукае пажылы, Мікітавага веку, рабацяга ў зашмальцаванай кепурцы.

— Вітаю, вітаю, — жвава азываецца савецкі госць, — ну гэтым разам, нарэшце, сустрэў земляка. Вы рускі?

— Ды не... я беларус, — рабацяга папраўляе брылёк кепуркі, — у мяне бацькі з-пад Менску, прыехалі ў Амерыку ў 1913 годзе. Цяпер вось тут, на прэсе працую.

Мікіта ўважліва, нібыта згадваючы — ці не сустракаліся яны раней, — глядзіць на рабацягу. Дзіўныя рэчы дзеяцца на заводзе «Места індастрыз». Дагэтуль, колькі ні сустракаў беларусаў, ніхто асабліва не ганарыўся сваім паходжаннем. А гэты прасаўшчык — і дзе, за акіянам! — з годнасцю кажа: я беларус!

— А завуць вас як?

— Змітро Заступневіч.

— Та-ак... у царскай Расеі жыццё было цяжкое, шмат хто з беларусаў ды ўкраінцаў падаліся за акіян, — Мікіта на імгненне змоўк, уцяміўшы, што прамаўляе мовай зяця-журналіста, уздыхнуў у задуменні: — У мяне ў маладосці, калі яшчэ на Данбасе працаваў, сябар быў, беларус. Дык вось ягоны знаёмы, родам, як зараз памятаю, з Баранавічаў, таксама падаўся ў далёкі свет. Лепшай долі шукаць. Уладкаваўся кавалём на завод у Філадэльфіі і потым знік недзе, ніводнага ліста не напісаў родным.

— Я тут ужо сорак два гады працую. Хачу вось на старасці гадоў на радзіму з'ездзіць, паглядзець — што там ды як...

— Мінск зараз вялікі і прыгожы горад. Яго б вашы бацькі і не пазналі, — прамовіў Мікіта, ціснучы закарузлую рабочую руку.

Савецкі госць ужо зрабіў колькі крокаў, але тут, схамянуўшыся, стаў выглядаць некага сярод спадарожнікаў. Праз імгненне ён уплішчыўся ў людскі збой, схапіў за рукаво галоўнага савецкага дыпламата Андрэя Грамыку, які яшчэ імгненне таму стаяў поруч, а тут нейк сарамліва прыхаваўся за шырокай Аляксеевай спінай: зяць па сваёй завядзёнцы штосьці занатоўваў у блакноце.

— Вось, пазнаёмцеся! Андрэй Андрэевіч Грамыка, ваш зямляк-беларус. Нарадзіўся непадалёку ад Гомеля. Цяпер ён міністр замежных спраў Савецкага Саюза.

Міністр з робленай усмешкай, ад чаго ягоны адвеку перакрыўлены твар яшчэ больш перакрывіўся, паціснуў руку Заступневічу, і землякоў шчыльным колам абступілі рэпарцёры. Аляксей паспрабаваў быў убіцца ў тое кола, потым стаў на дыбкі, спрабуючы пачуць — пра што гамоняць землякі-беларусы, — ды нічога не пачуў і спешна запісаў у блакноце: «А.А Грамыка і Зм. Заступневіч цёпла вітаюць адно аднаго і згадваюць родныя беларускія мясціны».

А палове на пятую па мясцовым часе «Боінг 707» адарваўся ад узлётнай паласы Пітсбургскага аэрапорта і ўзяў курс на Вашынгтон. На доле праплылі спавітыя вераснёўскай смугой карпусы вялізных заводаў, натапыраныя ў неба коміны, далёкія, падобныя да нейкіх незямных спарудаў, вежы небасягаў. Самалёт імкліва набіраў вышыню, ад чаго пазакладала вушы і зашчымела патыліца, і Мікіта, пазяхнуўшы, заплюшчыў вочы. І яму адразу ж згадаўся Змітро Заступневіч — той самы амерыканскі беларус, якога сустрэў на заводзе. «Трэба было гэтаму прасаўшчыку персанальнае запрашэнне зрабіць, — падумалася той хвіляй, — хай бы прыехаў, паглядзеў на зямлю продкаў. Відаць, сапраўды, — каб палюбіць радзіму, трэба ад яе далёка з'ехаць».

За сваё доўгае жыццё ён шмат пабачыў беларусаў. Упершыню сустрэўся з імі яшчэ ў маладосці, калі працаваў на шахце каля Юзаўкі. Лагодныя, працавітыя людзі. Але ж нейкія задужа абачлівыя і цураюцца ўсяго роднага. Вунь, хахлы збяруцца за бяседным сталом, адразу ж свае песні гарлаюць. А ад беларусаў роднай песні ніколі не пачуеш. І мовы сваёй чамусьці сароміцца...

Самалёт злёгку здрыгануўся, рухавікі загулі ўжо не натужліва, як дагэтуль, а з раднаснай палёгкай. Мікіта размежыў павекі. Пасажыры заварушыліся, загаманілі, і на другім канцы салона мільганула чарнявая галава Грамыкі.

«Яшчэ адзін беларус», — бязгучна прашапталі вусны. Міністр замежных спраў ва ўсіх партыйных анкетах пазначыў, што ён расеец, і Мікіта з гэтай нагоды любіў яго пацвяліць. Вось і сёння на заводзе ўзяў за руку і падвёў да земляка.

«Відаць, і цяпер яшчэ на мяне злуе. Думае: ізноў мяне Хрушч, як таго шкадлівага ката, носам у выпраўленую партыйную анкету тыцнуў», — Мікіта выпрастаў стомленыя ногі і згадаў, як летась, падчас нейкай бяседы, запытаў Грамыку: «А чаму гэта ты, Андрэй, ніколі на радзіму не завітаеш?» Галоўны дыпламат адразу насцярожыўся, утаропіў вочы долу, пачаў бубніць, што захлынаецца ад працы, што хата, дзе ён нарадзіўся, даўно згарэла, што там няма ўжо ні родных, ні знаёмцаў, — і давялося дакорліва крэкнуць, каб спыніць тыя адгаворкі. «А я вось, Андрэю, са сваёй Калінаўкі чатырнаццацігадовым хлопцам з'ехаў, а часцяком туды наведваюся. І сёлета думаю з'ездзіць, калі ўдасца. З радзімаю развітаешся, а яна ўсё адно з табою будзе. Вунь, беларускага акцэнту і дагэтуль не можаш пазбыцца...»

Самалёт ізноў страсянула, і Мікіта Сяргеевіч, каб адбіцца ад надакучлівых думак, пацёр скроні, паспрабаваў засяродзіцца на заўтрашняй сустрэчы з Эйзенхаўэрам, але ўсё раптам аддалілася: і Грамыка, і прэзідэнт Эйзенхаўэр, і беларус Заступневіч. І падалося, што ён гушкаецца на прывязаных да грушы арэлях, і жонка, Ніна Пятроўна, якая сядзела поруч, тыцнула мужа локцем, калі той храпянуў спрасонне.



ЯГОР МАРЦІНОВІЧ

**Рэдка можна пабачыць працоўныя кабінеты высокіх чыноўнікаў. Нацбанк праводзіць дні адкрытых дзвярэй, калі кожны ахвотны можа зайсці туды, дзе працуе галоўная банкірка краіны — Надзея Ермакова.**



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**На сцяне Мінскага завода Кастрычніцкай рэвалюцыі ў межах фестывалю вулічнага мастацтва Vulica Brasil з'явілася велізарнае графіці гусляра. Выканалі яго бразілец Ражэрыа Фернандэш і беларускі мастак Cowek. Яшчэ адно вялікае графіці намалявалі на сцяне будынка па вул. Фабрычнай, 22.**



**У Барысаве ў знак салідарнасці з Вінаградавым вывесілі нацыянальныя сцягі на мосце на праспекце Рэвалюцыі. Цяпер актывіст Zmeny Павел Вінаградаў адбывае чарговы 15-суткавы арышт за палітыку.**



**Тэр'ер Молі сарваўся з 30-метровай скалы Old Harry на поўдні Вялікабрытаніі і выжыў. Жывёла звалілася ў ваду, дзе яе заўважылі ратавальнікі. Ім удалося дастаць дзевяцімесячнага сабаку, які не пацярпеў у выніку інцыдэнту. У берагавой ахове паведамілі, што гэта першы выпадак, калі жывёліна выжыла пасля падзення з такой вышыні.**



## Анекдоты і жарты

* * *

І сказаў Бог малпам:

— Злазьце з дрэваў, вучыцеся, станавіцеся людзьмі і паводзьце сябе годна!

Частка малпаў злезла з дрэваў, а частка — засталася. І спытаў Бог:

— Чаму вы не злазіце з дрэў і не хочаце быць людзьмі?

А малпы яму адказалі:

— А мы не понимаем ваш белорусский язык!

* * *

— Мама, а калі ў нас у кватэры будзе цёпла?

— У маі, сынок.

* * *

— Ты маеш рацыю, і ты маеш рацыю.

— Але ж так не можа быць: іх пазіцыі несумяшчальныя!

— І ты маеш рацыю...

* * *

На Плошчы разбіраюць стары музей вайны. Калі ласка, разбярыце заадно таксама Палац Рэспублікі, каб два разы пасля тэхніку не ганяць.

* * *

У Магілёве няма «Макдональдса», бо ўсе выпускнікі працуюць па спецыяльнасці.

* * *

Бабуля, гледзячы на вясельны картэж:

– Ну вось, яшчэ адну павезлі посуд мыць.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Петраградскі час.** Глаўны начальнік дзвінскай ваеннай акругі загадаў, каб ва ўсіх грацданскіх (не ваенных) установах Віленскай губерніі гадзіны працы лічыліся паводлуг Петраградскага часу. Дагэтуль на Віленшчыне ўжываўся мясцовы час.

**«НН». №42. 1914.**

**Спаўзанне ў Азію.** Рэферэндум 17 кастрычніка быў днём развітання з надзеямі на паступовае набліжэнне Беларусі да стандартаў еўрапейскай дэмакратыі. Так раней праходзілі выбары толькі ў Азербайджане. Здаецца, у вялікіх гарадах і галасоў не лічылі. Не дапамог бы ні байкот, ні ўдзел, вось у чым пятрушка. Толькі выхад людзей на вуліцы мог ураўнаважыць псіхалагічны ціск на сяброў камісій з боку ўлады. Але беларусы рэдка выходзяць на вуліцы. Мы хатняя нацыя... І сітуацыя ў грамадстве не рэвалюцыйная.

**«НН». №39. 2004.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**





Наклад 7006. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 21.10.2014.
Замова №4126.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 14039